*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 16 (228) | 19 красавіка 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

**НАСТУПНЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ БУДЗЕ...** Стар. 2.

**«ДЗЯДЗЬКА ЯРЭМІЧ» — ХТО ЁН?** Стар. 4.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ВЫЗНАЧЫЎ ДАТУ ПРАВЯДЗЕННЯ РЭФЕРЭНДУМУ — 14 ТРАЎНЯ.** За яе аддалі свае галасы 157 дэпутатаў. Большасць дэпутатаў адобрыла ўключэнне ў бюлетэнь для тайнага галасавання толькі аднаго пытання — аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Вынікі галасавання падштурхнулі Прэзідэнта да дзвюх заяў. Спачатку ён сказаў, што рэферэндум адбудзецца, бо дэпутаты ўжо прызначылі яго дату, а іншае, маўляў, не іхняя справа. Потым А.Лукашэнка заявіў, што калі будзе парушана Канстытуцыя, ён прыме рашэнне аб прыпыненні дзейнасці Вярхоўнага Савета.

○ ***11 КРАСАВІКА Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ ПАЧАЛАСЯ ГАЛАДОЎКА 18 ДЭПУТАТАЎ АД АПАЗІЦЫІ.*** *Пры абвяшчэнні галадоўкі дэпутат Зянон Пазьняк сказаў: «Абрабаваўшы народ, вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэферэндум аб яго святой беларускай мове, аб яго гістарычных сцягу і гербе ва ўмовах жабрацтва, беспрацоўя, інфармацыйнай блакады і поўнай беззаконнасці. Абрабаваўшы народ, вы прапануеце грамадскі раскол і грамадзянскае процістаянне. Абрабаваўшы народ, вы гатовы прадаць незалежнасць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплуатацыю і расправы сваёй і замежнай мафіі».*

○ **9 КРАСАВІКА АДБЫЎСЯ ЧАЦВЁРТЫ З'ЕЗД БНФ.** Перад удзельнікамі з'езда выступіў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Лідэр БНФ Зянон Пазьняк адзначыў, што галоўная сіла, якая будзе процістаяць фронту на маючых адбыцца выбарах, — расійскія спецслужбы. У рабоце з'езда прынялі ўдзел 393 дэлегаты.

○ ***6 КРАСАВІКА 1995 ГОДА МОЖНА ЛІЧЫЦЬ ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАГА МАРСКОГА ФЛОТУ.*** *У гэты дзень у Дзяржаўным рэестры марскіх суднаў Рэспублікі Беларусь быў зроблены першы запіс — дадзеныя пра судна «Гайдук». Яно перададзена польскімі маракамі па дагавору арэнды сумеснаму беларуска-польскаму прадпрыемству «Белмора-1». Судна пад бел-чырвона-белым сцягам цяпер плавае ў міжнародных водах Ціхага акіяна.*

○ **ПАВОДЛЕ ПАПЯРЭДНІХ ДАДЗЕНЫХ, КАНДЫДАТАМІ Ў ДЭПУТАТЫ НОВАГА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ВЫЛУЧАНЫ:** у Брэсцкай вобласці — 272 прэтэндэнты, Віцебскай — 310, Гомельскай — 338, Гродзенскай — 252, Менскай — 372, Магілёўскай — 268. Найбольшую палітычную актыўнасць паказала сталіца — тут на мандаты дэпутатаў Вярхоўнага Савета прэтэндуюць 610 чалавек. Увогуле па 260 акруговых камісіях краіны вылучаны 2439 кандыдатаў.

○ ***ЛІТОЎСКУЮ РЭСПУБЛІКУ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НА ЧАЛЕ СА СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕЧЫСЛАВАМ ГРЫБАМ НАВЕДАЛА БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ.*** *Яе прыняў Прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі Альгірдас Бразаўскас і прэм'ер-міністр Адольфас Шляжавічус. Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі сустрэлася з прадстаўнікамі беларускіх абшчын Літвы. Беларусы Літвы выказалі сваю занепакоенасць наконт беларускай мовы. Яны лічаць, што яе неабходна захаваць у рэспубліцы ў якасці адзінай дзяржаўнай мовы. Але хто ў нас будзе лічыцца з думкай беларусаў Літвы?*

○ **У КІЕВЕ, У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ УКРАІНЫ,** адкрылася персанальная выстава твораў заслужанага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі, арганізаваная па ініцыятыве Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Выстава стала першым мерапрыемствам, прадугледжаным у пратаколе аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры абедзвюх краін.

# Дзеля беларускай будучыні



Выкладчык фізкультуры Віктар Емяльянчык. Фота аўтара.

— Закон аб мовах у дзяржаўных установах не выконваецца — гэтыя словы даводзіцца чуць мноства разоў. А ці ёсць увогуле прыклады яго безумоўнага выканання? Як аказалася, ёсць. У гэтым карэспандэнт «Нашага слова» пераканаўся, наведаўшы Менскі педагагічны каледж. Першым ягоным суразмоўцам стаў дырэктар гэтай навучальнай установы **Аркадзь Бялькевіч**.

— Наш каледж рыхтуе настаўнікаў пачатковых класаў сярэдніх школ, і вучацца ў ім студэнты амаль выключна з Менска. У нас, калі быў прыняты і пачаў выконвацца Закон аб мовах, гарадское паходжанне нашых студэнтаў стварала значныя праблемы. Бо пераважная большасць іх скончыла расійскамоўныя школы, а значная частка нават у школах не вывучала беларускай мовы — гэткая моўная сітуацыя была ў сталіцы Беларусі ў асяроддзі выпускнікоў школ перыяду канца 80-х гадоў.

Тэрмін навучання ў каледжы — два гады. І за гэты кароткі час нам трэба было не толькі навучаць студэнтаў мове, але і ў пэўнай ступені паўплываць на іхні светапогляд. Бо ж нашыя навучэнцы па атрыманні дыпломаў меліся працаваць з дзецьмі, а гэта значыць не толькі выкладаць школьныя дысцыпліны па-беларуску, але і думаць па-беларуску, гаворачы са сваімі выхаванцамі. Таму пераход каледжа на беларускую мову навучання адбыўся ў адзін дзень — з пачаткам у 1992 новага акадэмічнага года. Мову — і

*(Працяг на с.2)*

## Замежжа

### *Прывітанне ад Прэзідэнта ЗША Біла Клінтана амерыканскім беларусам на 77-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі*

**БЕЛЫ ДОМ**
**Вашынгтон**
**16 сакавіка 1995 г.**

***У 77-я ўгодкі абвяшчэння ў 1918 годзе незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі я перадаю шчырае прывітанне ўсім амерыканцам беларускага паходжання, якія адзначаюць гэтую важную дату. Аднаўленне ў 1991 годзе незалежнасці Беларусі, сімвалізуючы неўміручы дух беларускай дэмакратыі, — уяўляе сабой удалае здзяйсненне шматвекавога жадання.***

***Кароткатрывалая рэспубліка 1918 года дае важны прыклад сучаснаму пакаленню. Нацыя мусіць быць пільнай, аберагаючы і ахоўваючы свой суверэнітэт і незалежнасць. Бо раз страчаная, гэткая свабода не лёгка аднаўляецца. Падзеі 1918 і 1991 гадоў паказваюць нам, што нават дзесяцігоддзі чужога панавання ці таталітарнага ладу не здолелі задушыць у Беларусі імкненне да дэмакратыі.***

***Падтрымка суверэнітэту, незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі сталася правадным прынцыпам у дачыненнях Амерыкі з гэтай краінай. У духу гэтых угодкаў адновім жа ўсе нашу адданасць справе запэўнення, каб працягвала зырка гарэць полымя беларускай свабоды і дэмакратыі.***

***Найлепшыя пажаданні ўсім удала правесці гэтае святкаванне.***

**Біл КЛІНТАН.**

## Дэмакратычнае Аб'яднанне ветэранаў да святкавання 50-х угодкаў Перамогі над гітлерызмам стварыла Аргкамітэт

У сувязі з юбілеем перамогі над гітлераўскім фашызмам па ініцыятыве Беларускага дэмакратычнага Аб'яднання ветэранаў створаны Грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаванні 50-х угодкаў заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе, у склад якога ўвайшлі:

**Васіль Быкаў** — старшыня Аргкамітэта, камандзір узвода армейскай артылерыі 2-га і 3-га Украінскіх франтоў, народны пісьменнік Беларусі;

**Артур Вольскі** — намеснік старшыні Аргкамітэта, удзельнік вайны з Японіяй, пісьменнік;

**Ірына Барцянёва** — сувязная партызанскага атрада імя Дзячкова, разведчыца 1-га Беларускага, 3-га Украінскага франтоў;

**Язэп Белановіч** — камандзір гарматы, удзельнік абароны Смаленска, Сталінградскай бітвы, штурму Берліна, мастак;

**Мікола Крукоўскі** — начальнік штаба партызанскага атрада Другой заслонаўскай брыгады, доктар філасофскіх навук, прафесар Беларускага універсітэта культуры;

**Уладзімір Кулажанка** — кулямётчык 1-га Беларускага фронту, удзельнік штурму Берліна, доктар эканамічных навук, прафесар Беларускага тэхналагічнага універсітэта;

**Алег Луцэвіч** — партызан атрада імя Шарава другой Мінскай брыгады, выкладчык Менскай мастацкай вучэльні пры БелАМ;

**Мікола Мельнікаў** — партызан атрада «Беларусь», камандзір аддзялення 3-га Беларускага фронту, удзельнік штурму Кёнігсберга, кандыдат педагагічных навук, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэту;

**Аляксей Саламонаў** — кулямётчык Ленінградскага, 1-га, 2-га, 3-га Прыбалтыйскіх франтоў, доктар тэхнічных навук, прафесар Беларускага тэхналагічнага універсітэту;

**Зоя Сярова** — удзельніца менскага падполля, доктар біялагічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук Беларусі;

**Мікола Татур** — камандзір кулямётнага аддзялення 37 партызанскай брыгады, пісьменнік;

**Алесь Траяноўскі** — партызан атрада імя Дунаева, шараговы 3-га Беларускага і 3-га Украінскага франтоў, журналіст;

**Міхаіл Чарнуха** — удзельнік вайны ў Афганістане, палкоўнік у адстаўцы, настаўнік, г.Віцебск;

**Дарафей Чорны** — сувязіст 3-га Беларускага фронту, удзельнік вайны з Японіяй, дырэктар Клецкага гісторыка-этнаграфічнага музея Менскай вобласці;

**Уладзімір Шакуцін** — малалетні вязень фашысцкага канцлагера;

**Фелікс Шкірманкоў** — партызан брыгады імя Даватара, камандзір узвода інжынернай разведкі 4-га Украінскага фронту, старшыня Слаўгарадскага гарадскога Савета Магілёўскай вобласці;

**Пётра Штоба** — камандзір кулямётнай роты Заходняга фронту, вязень фашысцкага канцлагера для афіцэраў «Гамельбург», канцлагераў «Штутгоф», «Бухенвальд», удзельнік антыфашысцкага Супраціўлення, камандзір штурмавой брыгады падчас паўстання ў Бухенвальдзе 11.04.45 г., вязень-пакутнік савецкіх канцлагераў 1946—1953 гг., г.Пінск;

**Язэп Юхо** — камандзір узвода супрацьтанкавай артылерыі Заходняга фронту, удзельнік Сталінградскай бітвы, баёў за вызваленне Беларусі, Усходняй Прусіі, доктар юрыдычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

**АРГАНІЗАЦЫІ-СТВАРАЛЬНІКІ АРГКАМІТЭТА:**

**Беларускае дэмакратычнае Аб'яднанне ветэранаў;**
**Камісія беларускага аб'яднання «Лёс» па сацыяльнай абароне былых ахвяраў нацыянал-сацыялісцкага пераследу;**
**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»;**
**Мартыралог Беларусі;**
**Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»;**
**Менскі культурна-асветны клуб «Спадчына»;**
**Беларускае Праваслаўнае брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў;**
**Свабодны прафсаюз Беларусі;**
**Беларускае згуртаванне вайскоўцаў;**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі;**
**Беларуская каталіцкая грамада;**
**Грамадскае аб'яднанне хрысціянскай злучнасці «Курапаты»;**
**Жаночы Хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі;**
**Беларуская партыя Свабоды;**
**Дэпутацкі клуб г.Менска «Дэпутаты за рэформы»;**
**Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі;**
**Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада;**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны;**
**Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя;**
**Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай;**
**Беларуская нацыянальная партыя;**
**Краязнаўчае таварыства Беларусі;**
**Беларускі эвангелічны рэфармацкі збор;**
**Беларуская сялянская партыя;**
**Свабодны прафсаюз педагогаў Беларусі;**
**Задзіночанне беларускіх студэнтаў БДУ;**
**Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г.Менска;**
**Згуртаванне беларускае шляхты;**
**Творчая суполка мастакоў «Пагоня»;**
**Свабодны прафсаюз студэнтаў БДУ.**

# Дзеля беларускай будучыні

(Працяг. Пачатак на с.1.)

мне, і іншым выкладчыкам — вывучаць не давялося: усе атрымалі адукацыю тут жа, у Беларусі. Таму, напрыклад, я сам, папярэдзіўшы студэнтаў, з новага года пачаў чытаць лекцыі па-бела-руску. Не буду маніць, напачатку гэта было цяжка — мысленна даво-дзілася перакладаць кожную фразу. Але галоўнае — жаданне. Ужо праз тыдзень-другі ўсе адчулі і словы мовы, якія раней адно захоўваліся ў памяці, нам усім не даводзіцца ўспамінаць, перакладаць ці адшукваць беларускія адпаведнікі фразам з іншай мовы. Мова, якую пачалі стала ўжываць усе, стала нармальнай і адзінай мовай зносін. Гэта пачалося тры гады таму, і ўжо ў мінулым годзе ўсе дзяржаўныя экзамены — не толькі мову, а і матэматыку, і педагогіку, і псіхалогію — усе нашы студэнты здалі на дзяржаўнай мове. І старшыні дзяржаўных камісій — рэктар, прарэктар і дэкан факультэта пачатковых класаў педагагічнага універсітэта — былі вельмі задаволены і ўзроўнем ведаў, і ступенню валодання студэнтамі мовай. Дарэчы, **ужо склалася практыка прыёму нашых выпускнікоў у педагагічны універсітэт паводле вынікаў гутарак з імі** — гэта дазваляе зрабіць вышэйшым узровень нашага навучання. Дык вось, я думаю, што якраз гэтыя студэнты — нашы выпускнікі, для якіх беларускае маўленне стала нормай яшчэ ў каледжы, і створаць падмурак новай нацыянальнай школы.

А тут пачынаецца ўсё, канешне ж, з саміх выкладчыкаў. Пераважная большасць іх працуе выключна на дзяржаўнай, разумеючы важнасць гэтага. Тыя ж, якія гавораць горш, папросту мусяць аваладаць мовай, бо гэта — сведчанне аб іх прафесійнай прыдатнасці. І таму, напрыклад, вывучае мову былы выкладчык сувораўскага вучылішча, які цяпер працуе ў нас, і на гэта ён атрымаў пэўны тэрмін. Бо прынцып нашага каледжа — аднамоўе.

Усё, аб чым я гаварыў дагэтуль, **вынікае з разумення нашымі настаўнікамі сваёй адказнасці за адраджэнне нашай мовы, нашай культуры ды, урэшце, нашага народа і краю.** І нам прыкра бачыць і чуць грамадскіх дзеячаў і палітыкаў, якія адмаўляюць беларусам у праве на існаванне, гавораць аб неабходнасці вяртання да стану, які склаўся да часу абвяшчэння нашай краінай незалежнасці. Але, нягледзячы на гэта, мы па-ранейшаму працуем на будучыню, на пакаленне, якое будзе жыць у Беларускай дзяржаве з уласнай мовай і культурай, якое будзе шанаваць сваю спадчыну.

Наступная гутарка адбылася ў месцы трохі нечаканым: у спартыўнай зале. Свае меркаванні выказаў настаўнік фізкультуры **Віктар Емяльянчык.**

— З 1992 года выкладанне ў нас пачалося па-беларуску. Адзінай цяжкасцю, якую я меў у сувязі з гэтым, стала перапісванне канспектаў па-беларуску. І вось ужо тры гады я выкладаю методыку фізічнага выхавання і вяду фізічную падрыхтоўку на роднай мове. Ёсць цяжкасці ў сувязі з адсутнасцю распрацаванай і распаўсюджанай беларускай спартыўнай тэрміналогіі, але я часам знаходжу нейкую прыдатную літаратуру, а часам нават спрабую ўжыць уласныя распрацоўкі. Сярод літаратуры, якой даводзіцца карыстацца, — нават Статут Беларускай народнай арміі 1918 года, бо ж шмат якія каманды ўжываліся ў вайсковым шкаленні, пасуюць і да агульнафізічнай падрыхтоўкі. І каманды «зважай» ці «зборка» гучаць у нас пад час заняткаў, і разумеюць іх студэнты не горш, чым «смирно» ды «становись». Бо беларуская мова ў нашым каледжы — не проста мова навучання, а сродак зносін. І тыя, хто тут вучыцца, на ўласныя вочы бачаць штучнасць усіх абмежаванняў, створаных для яе дагэтуль. Па-беларуску тут адбываюцца і трэніроўкі нашай баскетбольнай каманды, якая, дарэчы, заняла другое месца ў сваёй групе, а таксама каманды настольнага тэніса, якая на спартакіядзе сярэдніх навучальных установ стала першай.

Думаю, тое, што наша мова ў сценах каледжа гучыць і на занятках, і пад час спартыўных спаборніцтваў, не ёсць нешта надзвычайнае. Па-беларуску вучыўся я сам, а сёння на гэтай, роднай нам мове атрымліваюць адукацыю ўжо мае вучні. Гэта — проста працяг традыцыі.

А як ставіцца да змены мовы навучання студэнты, большасць якіх скончыла расійскамоўныя школы? Аб гэтым паведаміў адзін з будучых настаўнікаў — **Мікалай Валахановіч.**

— Да паступлення ў каледж я скончыў расійскамоўную школу. Гэта быў не вынік чыйгосьці выбару — іншых папросту не было. Але сюды я ішоў, ведаючы, што каледж рыхтуе менавіта беларускамоўных настаўнікаў для беларускіх школ. Жадаючы стаць выкладчыкам, я палічыў гэта абсалютна нармальным — на якой жа яшчэ мове трэба весці навучанне ў школах Беларусі? Бо менавіта там, у школах, мае стварыцца новае моўнае асяроддзе. Не скардзяцца ж тыя людзі, якія аддаюць дзяцей у прыватныя школы з англійскай мовай навучання, на тое, што ізхім дзецям не будзе з кім гаварыць па-англійску на вуліцах! А беларуская мова сёння гучыць не толькі ў вёсках, але і ў гарадах — даказваць гэта нікому не трэба.

Уласнае перакананне ў гэтым і ўмовы, створаныя тут, дапамаглі мне. Таму нейкія цяжкасці з прычыны сваёй іншамоўнай адукацыі я адчуваў хіба што на працягу першага месяца. Бо па-беларуску тут чыталіся ўсе лекцыі, адбывалася практыка. У гэтым асяроддзі мова для мяне, як і для іншых студэнтаў, стала не адной з дысцыплін, а сродкам зносін, часткай жыцця. Інакш не магло быць, бо пазней, пад час працы з дзецьмі, мы, настаўнікі, мусім гаварыць з імі на мове нашай дзяржавы не са службовага абавязку, а з асабістай патрэбы. Менавіта на гэтым прыкладзе і павінна выхоўвацца новае пакаленне, якое, думаю, і збудуе новую, сапраўды незалежную духоўна Беларусь.



Дырэктар каледжа **Аркадзь Бялькевіч.** Фота **аўтара.**

Распытваў **У.ПАНАДА.**

РЭХА РЭХА

# Справа «Народнай газеты»: Аўтар ліста, за які зняты з пасады галоўны рэдактар, існуе. А наступным прэзідэнтам Беларусі, магчыма, будзе жанчына

Падобна на тое, што, распачаўшы баявыя дзеянні супраць дэмакратычнай прэсы, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка нечакана для сябе скрануў той камень, за якім можа ўсчацца лавіна. Паспрабаваўшы перакрыць, напрыклад, кісларод «Свабодзе», ён дамогся таго, што газета з кожным днём набывае ўсё большую папулярнасць і, нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя абставіны, за кароткі тэрмін утрая павялічыла свой тыраж (які мог ужо стаць, дарэчы, яшчэ большым, каб сябадоўцы не забаўляліся рэанімаваннем старога правапісу і стылістычнай архаікай). Цяпер выбухнула справа з публікацыяй у «Народнай газеце» «Пісьма да Прэзідэнта» «невядомага», як спрабавалі давесці службы Прэзідэнта, аўтара. Вельмі многія чытачы не зразумелі, за што спецыяльным Указам быў зняты з пасады галоўны рэдактар дэпутат Вярхоўнага Савета Іосіф Сярэдзіч, калі Канстытуцыяй дадзена права кожнаму грамадзяніну свабодна праз сродкі інфармацыі выказваць свае думкі. Незразумелым многім здаецца і тое, чаму тэкст ліста тлумачыцца як пагроза стабільнасці і грамадскага міру ў дзяржаве ў той час, калі аўтар усяго толькі эмацыянальна папярэджвае тых, хто хацеў бы прадаць ці перадаць некаму Беларусь, пазбавіць такім чынам яе грамадзян незалежнасці і свабоды. Выходзіць, аўтар — шчыры патрыёт і жадае толькі добрага сваёй Радзіме і беларускаму народу, а яго за гэта бэсцяць! Пра гэта згадаў на прэс-канферэнцыі апальны галоўны рэдактар самай папулярнай і масавай у Беларусі «Народнай газеты» Іосіф Сярэдзіч. «Я хачу спытаць, — сказаў ён, звяртаючыся да шматлікіх беларускіх і замежных журналістаў, — няўжо француз ці англічанін скажа інакш?»



**На здымку: Рэгіна Зімніцкая і Іосіф Сярэдзіч** у час прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце. **Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, Белінфарм.**

Але вялікай сенсацыяй стала тое, што, аказваецца, «Пісьмо» сачынілі не «злокозненные» журналісты, а яго аўтар існуе і гэта — жанчына! Спачатку, калі ўсчаўся лямант вакол публікацыі, яна спалохалася рэпрэсій, помсты і з'ехала да сваякоў у Расію, але калі дачулася, што з-за яе пацярпеў галоўны рэдактар, вярнулася, пераадолеўшы ўласны страх, каб папрасіць прабачэння ў чалавека за ненаўмысную шкоду, а таксама згадзілася сустрэцца з журналістамі на прэс-канферэнцыі, куды прыйшло таксама нямала дэпутатаў Вярхоўнага Савета. **Гэта, аказалася, Рэгіна Эдуардаўна Зімніцкая.** Яна настаўніца з Плешчаніц. Мае вучоную ступень кандыдата педагагічных навук. Яна — маці.

На прысутных Рэгіна Зімніцкая зрабіла вялікае ўражанне сваім высакародным абліччам, душэўнай дабрынёй, развaжлівасцю і светлым розумам. На пытанне журналістаў, чаму яна падпісалася мужчынскім прозвішчам, адказала, што не хацела шуму вакол свайго імя, а падругое, таму, што палітыка — у многім мужчынская справа. Па нацыянальнасці яна — полька, але лічыць сябе беларускай. Для псеўданіма выбрала польскае прозвішча, зазначыла яна, «каб паказаць, што пісаў грамадзянін Беларусі, але не беларус, які таксама любіць сваю Айчыну». Чаму звярталася да Прэзідэнта? «Хацелася, каб ён задумаўся, неяк скарэкціраваў сваю палітыку адносна незалежнасці. Але зараз відавочна, што ён убачыў у лісце толькі тое, што хацеў убачыць»...

«Прэзідэнт назваў фальшывай гісторыю ўсяго майго радаводу, — зазначыла Рэгіна Зімніцкая. — Усе ў маёй вёсцы ведаюць, што ў пісьме кожнае слова праўда. Таму я лічу, што гэта абраза. Таксама і наконт таго, што гэта пісьмо аплачана доларамі. Яно аплачана горкім вопытам маіх бацькоў, кнігамі Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава».

Рэгіна Зімніцкая папярэдзіла аб вялікай небяспецы страты беларусамі незалежнасці, бо ўсё роўна імперыя распадзецца, але «ці не абыдзецца гэта тады многімі ахвярамі, калі зараз мы не зможам зберагчы тое, што маем, — нашу незалежнасць»...

Такім чынам, магчыма, адбылося тое, чаго многія беларусы падсвядома чакалі, зняверыўшыся ў палітыках-мужчынах. Прычым недарма ў нас не толькі хрысціяне лічаць нябеснай заступніцай Беларусі Маці і Жанчыну. Змагацца з Жанчынай Аляксандру Лукашэнку, калі ён на гэта пойдзе, будзе вельмі няпроста. За Рэгінай Зімніцкай, калі яна пажадае заняцца палітыкай, безумоўна, пойдуць не толькі беларускія жанчыны, якіх у рэспубліцы большасць, але і шмат хто з мужчын. Ужо зараз сапраўдныя беларускія афіцэры лічаць за гонар быць яе рыцарамі, а падпалкоўнік Мікалай Статкевіч запэўніў, што калі яна таго пажадае, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў гатова прадаставіць ёй любую ахову.

**Уладыслаў АСІПАВЕЦ.**

## З рэдакцыйнай пошты

# Трэба выстаяць!

Дзень добры Наша слова! Сядома не бяру ў двукоссі назву, бо шмат чаго дзякуючы гэтым значкам **прыпыняецца і перакручваецца. А** Наша слова для мяне тое, чым дыхаю і жыву. Вось і на вершы яно часам натхняе.

**А цяпер крыху пра маё стаўленне да газеты. Бываюць нейкія заганы, але галоўную лінію не ведаю якім чынам вам удаецца трымаць. Проста шкада, што малавата падпісчыкаў і інфармацыя з-за гэтага абмежавана распаўсюджваецца.** Часу ва ўсіх не хапае, таму некаторыя публікацыі адкладваем для падрабязнага азнаямлення ці вывучэння на «потым». Люд жа ў асноўным так прывучаны, што добра калі схопіць сітуацыю на ўзроўні «Народнай газеты», ды і то не ўсе цікавяцца людцы яшчэ тым, дзе хто каго прыбіў, прыдушыў і колькі далі. А «попыт» нараджае "тавар", з чаго вынікае, што, калі якасная і высокамаральная інфармацыя на беларускай мове не здолее прабіцца да масавага чытача, бруду і крымінальнасці ў грамадстве будзе становіцца яшчэ больш, а чым усё тады скончыцца, адзін Бог ведае. Ды, сціўшы зубы, трэба выстаяць. Каб жа хоць добрае слова ўваходзіла ў галовы людцаў, якія так цяжка ачуньваюць ад хваробы прыніжанасці!

Вось і я ў кутку сваім нешта пішу і нешта кажу на карысць нацыянальнага Адраджэння. Паэтам прафесійным хутчэй за ўсё не стану, але любоў да роднага слова — гэта таксама ўцеха, паэзія. Разам з фізічнай працай. Люблю працаваць, радуюся добраму інструменту. Шкадую тых, хто думае толькі пра тое, як наесціся. Нездарма ў народзе кажуць, што хто думае толькі пра тое, чым набіць страўнік, ад таго яда ўцякае.

Зараз выбары наступаюць. Жадаю, каб людзі падумалі і падтрымалі тых, хто сапраўды думае пра народ, а не корміць яго гучнымі абяцанкамі.

*Зорка Радзімы трывожна мігціць,*
*Цісне і сэрца трывога.*
*Ды не здамося — і будзем жыць*
*Пойдзем сваёю дарогай.*

**Алесь ВАСІЛЕЎСКІ.**
в.Клетнае Барысаўшчына.

## Беларускае замежжа

### 77-я ўгодкі абвяшчэння Незалежнасці: віншаванні, азмрочаныя трывогай

Нашыя суродзічы, якія жывуць у эміграцыі, працягваюць дасылаць на Бацькаўшчыну лісты з прывітаннямі ды віншаваннямі з нагоды 77-х угодкаў абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Але сёлета ў гэтых лістах паменела радасных слоў — болей заклапочанасці, бо дэнацыяналізаваныя таталітарныя сілы на гістарычнай Радзіме павялі адчайную атаку на дзяржаўныя сімвалы і мову карэннай нацыі — нашае роднае слова.

Увазе чытачоў прапануем колькі вытрымак з некаторых віншавальных лістоў прадстаўнікоў беларускай дыяспары, што жывуць у Паўночнай Амерыцы.

### Згуртаванне беларусаў Канады

«...25 сакавіка 1918 года Беларускі народ аб'явіў усяму свету, што ён існуе і жыве як раўнапраўны народ сярод усіх народаў свету. Нягледзячы на цяжкасці таго часу, Беларусы прынялі канкрэтныя захады, каб стварыць свой урад і краіну ў адметных інтарэсах беларускага народу. Мы сёння дзякуем тым прадстаўнікам нашага народу, якія паказалі сваю мужнасць і адказнасць перад беларускім народам...

З пашанай Юрка Рапецкі, сакратар»

### Беларуска-Амерыканскае Задзіночаньне — суродзічам на Бацькаўшчыне

«...Беларусы ў дыяспары намагаюцца спрыяць пашырэнню ў свеце інфармацыі пра Беларусь, наладжанню эканамічных і культурных сувязяў з краінамі свайго пасялення, выхаду рэспублікі на міжнародныя кантакты. Разам з тым нас трывожаць факты няўвагі да нацыянальных інтарэсаў Беларускай дзяржавы з боку некаторых урадаўцаў Рэспублікі Беларусь, у тым ліку непаважлівае стаўленне да беларускай мовы...

Антон Шукелайць, старшыня БАЗа»

### З рэзалюцыі канадыйцаў беларускага паходжання, удзельнікаў урачыстага сходу ў Беларускім рэлігійна-грамадзянскім цэнтры ў Таронта

«...Ад некаторага часу ў Беларусі, нягледзячы на дзяржаўны статус беларускай мовы, назіраюцца перашкоды з боку ўрадавых дзеянікаў у яе адраджэнні і пашырэнні ў штодзённым ужытку афіцыйных асобаў. Яшчэ больш сумна і абуральна, што высокапастаўленыя дзяржаўныя мужы, уключна з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь спадаром Аляксандрам Лукашэнкам на чале, не карыстаюцца роднай мовай, а паніжаюць яе і гэтым самым абражаюць беларускі народ.

Мы, канадыйцы беларускага паходжання, на працягу амаль паўвяковага перыяду захоўвалі і скарб сваіх бацькоў, родную мову, жывучы сярод мора англамоўнага і франкамоўнага насельніцтва Канады, каб цяпер з болем назіраць зняваrу беларускага народу ў яго ўласнай дзяржаве. Мы верым, аднак, што верныя дочкі і сыны Беларусі належна стануць у абарону сваёй тысячагадовай культуры і сваёй дзяржаўнасці, і мы далучаем да іх свой голас».

## Уражанні

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

### Каза

— Прыехала Тонька з задрыпанай вёскі. Мурзатая і смаркатая. Павяла яе ў салон. Зрабілі ёй там модную прычоску. Параіла Тоньцы купляць самыя модныя сукенкі. У абцяжку. І міні. Каб і ногі было як паказаці, і грудзі. Навучыла модным танцам. Падабрала ёй імпартную парфуму. Не пазнаць Тоньку. Прыгажуняй стала. Вачэй не адвядзеш. Пачалі хадзіць у рэстаран. Вадзіў нас больш Валік, мой кавалер. Ён камерсант. Пачнецца танец — кожны раз запрашае Тонька Валіка. І адбіла ў мяне кавалера. Цяпер яны пажаніліся. А я адна засталася. Вось і пусці казу ў агарод. Зрабі чалавеку добрае. На сваю галаву навучыла яе жыць па-гарадскому.

### Навука

— Трыццаць гадоў я піў. Бач, які стаж... Мне яшчэ трэба адну пенсію даваць. За гэтую чорную работу. Шмат здароўя паклаў на ёй. Цыстэран сто выпіў, калі не больш. Пад канец піў адэкалон. Нават клей. І ваксу еў. Вось да чаго быў дакаціўся. І як я тады не згарэў? Сам цяпер дзіўлюся. Ніякая трасца не брала. Конскае, бач, здароўе Бог даў. Нават нутро не перапаліў. З работы гналі кожны раз, як паршывага і вашывага сабаку. Мо сто работ памяняў. Жонка з хаты ўцякла да другога. Прапіў усё, што было ў хаце. Нават апошнюю талерку з лыжкамі. Бо не было чаго есці. Кранты, бач. Лягай і памірай. І тут злосць мяне схапіла. Здушыла за горла. На самога сябе. Заплакаў як бабёр. І кінуў піць. Моцна захацеў і, бач, кінуў. Кідаюць жа людзі курыць. Так і я піць кінуў. Ужо трэці год па-сухому жыву. І грашавітую цяпер работу маю. У бізнесе раблю, бач. Эканаміст я. Цяпер, бач, абжыўся, абставіўся. Мэбля, халадзільнік, тэлевізар. Вярнуў усё тое, што прапіў. І ад жаночага адроддзя цяпер адбою няма. Кватэра ж, бач, вялікая. А я адзін. Вось і зырацца на мае метры. І яшчэ, бач, ведаюць, што я грашавіты. Дачу будую. А некалі нават не глядзелі ў мой бок. Адварочваліся ад алкаша. І, бач, як усё павярнулася. Другім бокам. Ага, ледзь не забыў... Прыходзіць да мяне адна, маладая. Разам з ёю робім. Развядзёнка. І адразу: «Буду жыць у цябе, Карнеевіч». «Дык ты, — кажу, — мне дачка па гадах». Смяецца: «Вось і будзеш мне бацькам». Падумаў і пусціў. І жыве, бач. У другім пакоі яе ложак. Перад сном заўсёды мне ногі мые. І часам ноччу да мяне прыходзіць. Пад коўдру. Ну, вядомая справа... Пакуль не крыўдзіцца на маю любоў... Лякарствамі мяне адпойвае. Зёлкамі, вітамінамі. З аптэкі, бач, носіць. Розны пантакрын, жэньшэнь. Гэта каб смачней было са мной спаць. Вось так, бач, і жыву. І табе раю так жыць. У мяне вучыся: кідай піць.

## Занадта далёка зайшло

ЧЫТАЛІ?

***У Францыі ў Парыжы ўжо працяглы час выдаецца часопіс польскай эміграцыі «Kultura» (галоўны рэдактар — Ежы Гэдройць). Тут надрукаваны нарыс З.Сямашкі «Вільня і Ляхаўшчына», урывак з якога будзе, спадзяёмся, для нашых чытачоў як погляд дасведчанага чалавека збоку.***

«Мой бацька не меў ніякіх цяжкасцяў, карыстаючыся беларускай мовай, а расійскую выкарыстоўваў толькі там, дзе гэта было неабходна. Сёння ўсё гэта выглядае інакш. Асноўная змена заключаецца ў тым, што па-беларуску, уласна кажучы, не гаворыць ніхто, а велізарная большасць жыхароў карыстаецца расійскай з дробнымі рэшткамі беларускай. Апынуўшыся там (у вёсцы Ляхаўшчына. — **Рэд.**), я размаўляў па-польску толькі з ксяндзамі, клерыкаламі, манашкамі, гаспадыняй ксяндза... Акрамя таго, — увесь час па-расійску. Беларускую мову я чуў толькі перад ад'ездам у лонданскім консульстве, калі я атрымоўваў нашы візы. Да такіх зменаў найперш, відаць, спрычынілася тое, што ў савецкія часы ў школах вучылі толькі па-расійску. Акрамя таго афіцыйная беларуская мова, якая выходзіць з Менска, з'яўляецца часта ненатуральнай (? — **Рэд.**). Мяркую, што ажыўленне беларускай мовы будзе вельмі складанай справай, бо расіізацыя паўсядзённай мовы велізарнай колькасці людзей зайшла ўжо занадта далёка».

**Перакладзена з польскай. «Kultura», № 1-2, 95 (Парыж).**

## Рупліўцы

## На сувой адраджэння, ці Разгадка Мачульскай «згадкі»...

Дзе той славуты Бурацінаўскі «залаты ключык» да ўзаемін з дзецьмі? Як узварушыць глыбінныя духоўныя скарбы выхаванцаў, чым зацікавіць іх у нашым нялёгкім сённяшнім жыцці? Менавіта такімі пытаннямі быў заклапочаны дружны педагагічны калектыў аднадумцаў Мачульскай базавай школы Столінскага раёна Брэстчыны, калі акрэсліў сабе праблемы: «Этычнае і эстэтычнае выхаванне вучняў на аснове народных традыцый». Дзякуючы клопатам дырэктара Кірэчка Пятра Гаўрылавіча, яго намесніка Ляшкевіч Марыі Іванаўны, настаўніц беларускай мовы і літаратуры Ляшкевіч Ванды Нікіфараўны і Пыталь Галіны Міхайлаўны ў школе пануе культ роднай мовы. Уся дакументацыя, класныя і агульнашкольныя мерапрыемствы вядуцца толькі на ёй. На калідоры перыядычна абнаўляюцца стэнды: «З днём нараджэння», дзе змяшчаюцца віншаванні імяніннікам-вучням і настаўнікам; «Фальклорны гурт «Згадка» з планам работы, каляровымі фотаздымкамі яго ўдзельнікаў і шматлікімі граматамі раённага і абласнога аддзелаў адукацыі і культуры і інш. Пад кіраўніцтвам арганізатара дзіцячага калектыву Анжэлы Ляшкевіч прыгожа аформлены ў нацыянальным стылі дзіцячы пакой. Уся работа ў ім скіравана на далучэнне школьнікаў да нацыянальнай культуры і мясцовых традыцый, да родных вытокаў. Так, кожны клас рыхтуе зборнік мясцовага фальклору (па раздзелах), праведзены вусны часопіс сезонных свят вёскі Мачуль «Асеннія народныя святы» — Прачыстая, Пакрова, Дзяды.

Настаўнікі добра разумеюць, што патрыятычныя пачуцці, любоў да роднага краю, нацыянальнай культуры дзеці ўспрымаюць асабліва ўдзячна. Таму і стала сапраўдным святам для вучняў пачатковых класаў сустрэча з паэзіяй — «Беларускія паэты пра зіму». Завуч школы Ляшкевіч М.І. сістэматычна знаёміць вучняў 5—9 класаў з творамі пісьменнікаў-землякоў: Уладзіміра Глушакова, Леаніда Дранько-Майсюка, Георгія Марчука, Міхася Шэлехава, Алеся Наварыча. Плённай была этнаграфічная экспедыцыя па вёсцы «З бабулінага куфэрка», пад час якой сабраны шматлікія экспанаты — рэчы, прылады працы, што даўно выйшлі з паўсядзённага ўжытку: драўляная саха, вярэнька, капыл-лапці, чаўнакі-верацёны, ткацкія вырабы, старадаўнія прыгожыя беларускія ўзоры-вышыванкі. Любоўна складзена і рэгулярна абнаўляецца падшыўка матэрыялаў «Выхаванне ў нацыянальнай школе», дзе руплівымі рукамі намесніка дырэктара збіраюцца навінкі перыядычнага друку па гэтым актуальнейшым пытанні. Яе рэкамендацыі служаць для настаўнікаў і выхавацеляў добрымі дарадцамі ў іх практычнай рабоце.

Асяродкам беларушчыны сталі ўрокі дырэктара школы і настаўніка гісторыі Кірэчкі П.Г. Ён умела стасуе прадстаўленыя праграмай школьнага курса гісторыі Айчыны варункі выкарыстання мясцовага матэрыялу, збірае багатую калекцыю дзяржаўных дакументаў аб роднай вёсцы, перапіскі мачульцаў, старых падручнікаў і ўзораў грошай. Ім адшуканы каляровыя фотаздымкі аб адкрыцці і асвячэнні ў 1932—33 гадах Мачульскай паўшэхнай школы. На яго ўроках вучні па-новаму «адкрылі» для сябе прозвішчы Францыска Скарыны і Міколы Гусоўскага, Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Сымона Буднага і Радзівіла Чорнага, Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага, Язэпа Лёсіка і Язэпа Драздовіча, Браніслава Тарашкевіча і Максіма Гарэцкага, іншых слынных сыноў і дачок Бацькаўшчыны. Сёння, на жаль, становіцца модным спыненне дзейнасці асобных музеяў, а Мачульская базавая школа ўшчыльную падышла да адкрыцця кампактнага краязнаўчага музея.

Сапраўдным скарбам для школы з'яўляецца настаўніца музыкі і спеваў Ляшкевіч Ірына Мікалаеўна. Гэта ў добрым сэнсе слова фанат Адраджэння беларушчыны. Да таго ж Мачуль — палескі куток багатых песенных традыцый. Тут многія дзеці «галасістыя», валодаюць здольнасцямі перадачы аўтэнтычнасці гучання народных песень прабабуль. І вось ужо шосты год, як Ірына Мікалаеўна стварыла пры школе фальклорны гурт «Згадка». Пад яе ўмелым кіраўніцтвам дзеці карпатліва «рэанімуюць» забытыя песні, што нідзе і нікім не запісаны. У цудоўна аформлены ілюстраваны альбом «Песенная спадчына вёскі Мачуль» ашчадна сабраны шматлікія абрадавыя песні заручын і вяселляў, шчадроўныя, сямейна-бытавыя, рэкруцкія. Гуртоўцы наладзілі інсцэніраваныя прадстаўленні: «Мачульскія вячоркі», п'есы В.Вольскага «Несцерка», Я.Купалы «Паўлінка», Каруся Каганца «Модны шляхцюк», каляндную праграму на мясцовым фальклоры «Шчодры вечар, пане-гаспадару», «Мачульскія пасядзёнкі на прызбе». Настаўніца музыкі і спеваў з калектывам гуртоўцаў вярнула з небыцця мясцовыя танцы «Шэн», «Карапет». На жаль, славутая некалі «Мачульская кадрыль» ужо незваротна страчана: ніхто са старэйшых жыхароў не помніць яе цалкам. Адшукалі фотаздымкі былых знакамітых мачульскіх музыкантаў з сямейнай дынастыі Клімовічаў, сфатаграфаваных разам з музычнымі інструментамі.

Дзеці самі шыюць, вышываюць прыгожыя нацыянальныя касцюмы. Сапраўднай майстрыхай «залатыя рукі» зарэкамендавала сябе васьмікласніца Таня Сідарэнка. А вось прозвішчы іншых актывістаў «Згадкі»: Валя Калодзіч, Мікалай Казеня, Аліна Леўкавец, Аркадзь Ляшкевіч, Люда Ляшкевіч, Таня Навак, Сяргей Пыталь, Жэня Тупік, дзеці сям'і Хвясечкаў — Мікалая Маркавіча і Надзеі Максімаўны і многія іншыя сённяшнія навучэнцы.

Выступленні фальклорнага калектыву Мачульскай базавай школы бачылі жыхары навакольных вёсак, старажытных Давыд-Гарадка і Пінска, раённага і абласнога цэнтраў — Століна і Брэста. І ўсюды выступоўцаў сустракалі дружнымі воплескамі.

Далучэнне школьнікаў да родных каранёў дае свой плён: выхаванцы неяк падабрэлі, душэўна пахарашэлі, не дазваляюць сабе грубых парушэнняў дысцыпліны. Яны дачыніліся да радаводу сваіх продкаў, адчулі повязь часу і сваю адказнасць перад суродзічамі. Словам, жыве Беларусь!

**Леанід РАМАНЕНКА, настаўнік Рамельскай СШ Столінскага р-на.**

ВУЧЫМСЯ

Культура мовы

# «Справа ў капелюшы» і дзе «здаровы сэнс»?

Слова... Яно, як вельмі дакладна зазначыў А.Разанаў, мае «свой твар, свой характар». Значэнне слова, яго гучанне раскрываецца ў пэўным кантэксце. Таму пры выбары слова неабходна кіравацца яго мэтазгоднасцю, умовамі маўлення. І асабліва гэта тычыцца фразеалогіі, бо менавіта яна, звязаная з побытам народа, яго звычаямі, вызначае нацыянальную спецыфіку, самабытнасць мовы.

На жаль, у перыядычным друку, на радыё, тэлебачанні можна сустрэць шмат устойлівых выказаў, скалькаваных з рускай мовы без усялякіх на тое патрэбаў.

«Справа ў капелюшы». З такім назовам у лютым выйшла тэлеперадача. Адразу ж узнікае пытанне: «А што ж за такая таямнічая справа, схаваная ў капелюшы»? Такое недакладнае выкарыстанне фразеалагізма прыводзіць да скажэння сэнсу. Аднак не толькі гэты ўстойлівы выказ скалькаваны з рускай мовы. Неўласцівыя беларускай мове словазлучэнні трапляюць у выданні, якія самі павінны быць узорам чысціні беларускай мовы: «гандлёвае пагадненне — справа тонкая», «у чым здаровы сэнс», «здаровы гумар», «справе — час, забаве — гадзіна». Вельмі крыўдна, што нядбалыя адносіны да слова псуюць, калечаць мову. А ў беларускай мове шмат арыгінальных формаў, пры дапамозе якіх можна спасцігнуць таямніцы слова! Нават ва ўстойлівых выказах у залежнасці ад сэнсавай насычанасці фразы па-рознаму падаюцца такія фразы. Напрыклад, у «Расійска-беларускім слоўніку» С.М.Некрашэвіча і М.Я.Байкова зафіксаваныя наступныя адпаведнікі ўстойлівых выказаў з асноўным кампанентам — рускім словам «дело»: Параўнайце: дурные дела — дрэнныя ўчынкі; обыкновенное дело — звычайная рэч; быть не у дел — не мець абавязкаў; известное дело — вядомая рэч; плёвое дело — найда; какое тебе дело — што табе да таго; моё дело — сторона — мая хата з краю; не в том дело — не ў тым сіла; по делам — па заслузе: употреблять на дело — ужываць на карысць; это дело — гэта добра; неподходящее дело — не на руку, нязручна; идти в дело — ісці на патрэбу; что дело, то дело — што праўда, то праўда; это особое дело — гэта іншая рэч; сидит без дела — палец аб па-лец не вытне; то и дело — раз у раз — раз пораз.

Як бачыце, ёсць з чаго выбраць! Нават такі выраз як «дело в шляпе» «Русско-белорусский словарь» 1993 г. фіксуе «дело в шляпе — усё ў парадку» (т.І, с.356). І не адзін, а некалькі сінанімічных адпаведнікаў рускаму «делу время — потехе час» знаходзім у «Малым руска-беларускім слоўніку» З.Санько: «Перш папрацуй, а тады патанцуй»; «Была нядзеля — і мы дудзелі, цяпер серада — працуй грамада»; «Калі — на лянок, а калі — у танок»; «Гульня, ды не штодня»; «Годзе цалавацца, пара і на хлеб старацца» (с.15).

А якімі ж адпаведнікамі можна перадаць значэнне фразеалагізмаў «здравый смысл», «здоровый юмор»? «Здравый смысл» — «разумны сэнс», «здоровый юмор» — «добры гумар».

А наогул, хацелася б параіць тым, хто рыхтуе матэрыял да друку, як мага часцей зазіраць у фразеалагічныя дыялектныя слоўнікі беларускай мовы, бо менавіта ў гэтых фальклорных крыніцах, як зазначыў Якуб Колас, можна знайсці трапныя словы да выказвання думкі.

**Т.ПІЛІПОВІЧ,**
**дацэнт БДУ.**

# На памылках вучацца

Вялікае значэнне для любога друкаванага твора мае і дакладны выбар слоў.

*«Але галоўныя рысы героя Амерыкі, Францыі, Польшчы і Беларусі — яго пачуццё справядлівасці, грамадзянская самаадданасць — передающа **перакананa**».*

**«Добры вечар»**

Паколькі працэс мыслення аўтара артыкула, з якога ўзяты сказ, відавочна, адбываецца на рускай мове, зазірнём у «Беларуска-рускі слоўнік». Слову «перакананa» адпавядае рускае «убеждённо». Але ў дадзеным кантэксце аўтар хутчэй за ўсё хацеў ужыць слова, якое мае сэнс «убедительно» («передаются убедительно»). На беларускай мове гэта гучыць як «пераканаўча». Такім чынам, памылка адбылася з прычыны недасканалага валодання мовай.

*«**Аддавайся цалкам** сваёй **пасадзе**, будзь заўжды **цнатлівым рэспубліканцам**, справядлівым і **правым**, без раскошы і асабістых амбіцый, словам, будзь Джэферсонам і маім сябрам».*

**«Добры вечар»**

Прыведзены ўрывак з таго ж артыкула ўяўляе з сябе спробу аўтара перакласці на беларускую мову вядомую цытату. Нават не звяртаючыся да арыгінала, бачым сэнсавыя недарэчнасці «аддавайся цалкам...пасадзе», «будзь... цнатлівым і правым рэспубліканцам». Ці можна сказаць «аддавайся цалкам пасадзе»? Напэўна, «аддацца» можна нейкай справе, ідэі, служэнню, г.зн. нечаму абстрактнаму, абагуленаму. «Пасада» ж — паняцце канкрэтнае. Паразважаем, як можна было б выказацца лепей: «аддавайся цалкам сваім абавязкам» або «...выкананню сваіх абавязкаў»? Гучыць па-канцылярску. Мусіць, перагляду падлягае ўвесь слоўны матэрыял сказа («Аддана працуй на сваёй пасадзе»?).

Разгледзім словазлучэнне «**цнатлівы рэспубліканец**». «Беларуска-рускі слоўнік» дае пераклад слова «цнатлівы» як «невинный, целомудренный, девственный». «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» дае наступныя азначэнні: «1. Маральна чысты; строгі ў маральных адносінах. Сарамлівы; далікатны... 2. Які не страціў нявіннасці». Аднак у сказе ідзе гаворка не пра маральныя і фізічныя якасці, а пра сацыяльна-палітычныя. Пэўна, па-руску слушна гучыць «целомудренный республиканец» у сэнсе «верны сваёй партыі». Аднак у беларускай мове слова «цнатлівы» не мае таго кніжнага, узвышанага адцення, як рускае «целомудренный». Таму больш адпаведным было б ужыць азначэнне «бездакорны», «беззаганны».

Што датычыць азначэння «**правы**», то ў беларускай мове гэтае слова мае значэнне, супрацьлеглае слову «левы», а таксама азначае прыналежнасць да пэўнай фракцыі, палітычнай арганізацыі. А тое, што меў на ўвазе аўтар артыкула, перадаецца як «той, хто мае рацыю», «праўдзівы». Хаця сустракаецца ўжытак слова «правы» аналагічна рускаму, гэта ёсць менавіта калька з рускай мовы. А ў дадзеным кантэксце выраз «правы рэспубліканец» успрымаецца яшчэ і як «на лежачы да правага крыла рэспубліканскай партыі», што, канешне, не больш, чым сэнсавая недарэчнасць.

**Л.ШНІП.**

*(Працяг будзе.)*

РЭХА

## Пра культуру мовы (і не толькі)

У лісце спадара Міколы (Мікалай, лічу, немілагучна і не па-беларуску) Дарошкі «Наступствы» (№ 13 «НС»), на жаль, я не знайшла аргументаваных доказаў на карысць гэтага запазычання.

Я толькі даведалася, што маю вялікую сілу, бо адной заўвагай «вынесла прысуд Тлумачальнаму слоўніку беларускай мовы (1977 год нараджэння, сапраўды, — не старасць, але жыццё ўжо надта паспяшае, а мова не паспявае...). Чытачы ж папоўніці свае веды, даведаўшыся, што «паследкі» — «падонкі», праўда, «паследкі сабачыя»... Пагадзіцеся, у гэтым штосьці ёсць...

Але разгорнем Тлумачальны слоўнік. Так, на с.77 (т.4) «паследкі», пераноснае, — «падонкі», тут жа і даецца «духмяны» прыклад з твораў Карпава, а на с.551 (т.3) чытаем: «падонкі». 1. адз. няма. Рэшткі вадкасці з асадкамі на дне пасудзіны. 2. перан. Дэкласаваныя, разбэшчаныя, злачынныя элементы грамадства. Зразумела, што «паследкі» могуць адносіцца толькі да першага значэння, як «рэшткі». Дык дзе Тлумачальны слоўнік мае рацыю?

Што ж да паметы "размоўнае" ў дачыненні да «паследкаў», то гэта не бяда, бо адкуль, як не з жывой гаворкі, чэрпае літаратурная мова?

Спадабаўся мне ў публікацыі М.Дарошкі толькі канец: «Чарнобыльская навала прадаўжае наступаць» (безумоўна, у значэнні «весці наступленне» (па слоўніку). Тады і трэба нам гаварыць аб «наступе» на чарнобыльскую навалу, хоць слова роднае.

Але як жа ўсё-такі ліквідаваць яе «последствия»?

А пакуль... Міністэрства, якому прызначана займацца пытаннямі чарнобыльскай катастрофы, мае найменне «Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

**В.БРАЗОЎСКАЯ.**

Практычная стылістыка

# Ці ж нам Статут не ўзор?

*(Працяг.)*

Размова пра стылістыку нашай мовы, пачатая ў мінулым нумары, не прыхамаць. Сёння, калі ўзнікла рэальная пагроза роднай мове, мусім яшчэ раз агледзець тыя скарбы, што сабраны за тысячагоддзі.

Кажуць, наша мова — гэта мешаніна з слоў суседніх моў. Абсурднасць такога меркавання відавочная, і нашым чытачам не трэба гэтага тлумачыць.

Але ёсць яшчэ адзін доказ адметнасці, самастойнасці мовы — гэта існаванне вуснага і пісьмовага відаў мовы, кожны з якіх мае па некалькі сістэмаў, што называюцца стылямі. Уявіце сабе, якой была наша мова, скажам, у XII стагоддзі, калі існавалі: Надпісы на так званых Барысавых камянях, надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай. (Верагодна, іх можна аднесці да кніжнага стылю пісьмовай мовы.);

Тураўскае евангелле, а таксама іншыя кнігі падобнага зместу, што перапісваліся ў Барысаглебскім манастыры, дзе Ефрасіння Полацкая стварыла майстэрню-скрыпторый. (Да якога стылю можна аднесці мову гэтых кніг?);

Супрасльскі рукапіс — зборнік жыцій і пропаведзяў XI стагоддзя, напісаны стараславянскай мовай, але з шматлікімі асаблівасцямі, якія, магчыма, сведчаць пра адметнасць мовы мясцовых манахаў-перапісчыкаў. Да гэтага стылю, відаць, трэба аднесці і «Жыціе Ефрасінні Полацкай»;

Рунічныя надпісы, пра што гаворыцца ў артыкуле Эдварда Зайкоўскага;

Адметнай мовай карысталіся простыя жыхары Полацкага, Віцебскага, Тураўскага, Гарадзенскага, Навагарадскага княстваў;

Магчыма, нечым адрознівалася ад тагачаснай гутарковай і мова дзяржаўных дакументаў, як, прыкладам, згаданая ў папярэдняй частцы артыкула Граматы 1229 года. Вядома ж, яна пісалася дзеля важнай дзяржаўнай справы — «далёказамежнага», як бы мы цяпер сказалі, гандлю. Гэтую грамату не назавеш «пазычанай» ці падробкай, бо існуе яе іншамоўны варыянт. (Грамата датуецца 1229 годам, але такую дасканалую мову за адзін прысест нельга стварыць — патрэбны дзесяткі гадоў.)

Трэба згадаць і пісьмовы варыянт размоўнага стылю, той, што застаўся на так званых берасцяных граматах. Верагодна, ужо ў XII стагоддзі існаваў эпісталярны — выкарыстаем «высокі стыль» — варыянт жывой народнай мовы. Асабліва шмат помнікаў гэтага жанру з'явілася ў XIV стагоддзі. Некаторыя вядомыя і цяпер. Прыкладам, адзін славуты наш мовазнаўца згадваў, што ў Маскоўскім архіве Міністэрства замежных спраў (яшчэ ў XIX ст.) захоўваўся ліст польскаму каралю Ягайлу, напісаны на «старом западнорусском наречии... старейшим западнорусским полууставом». Ліст датуецца 1392—1393 гадамі. Мы даём частку ксеракопіі ліста.

Ці не напішаце нам, адкуль і хто паслаў гэты ліст. Каб дапамагчы знайсці адказ на гэтую загадку, згадаем, што ліст прыслалі не з блізкага замежжа.

**Пётра ПАШКАВЕЦ.**

*(Працяг будзе.)*

. Слово тактамъıшево. къ королеви. польскому. вѣдомо даемъ. нашему бра. ажь есмь сѣлъ. на столѣ великого црства. коли есмь первое сѣлъ на црьскомъ столѣ. тогда есмь. послалъ былъ к вамъ асана и котлубугу. вамъ дати вѣдание. и наши посли нашли ва под городомъ под троки стоячи. вы па послали есте к намъ посла вашего. литвина. на имѧ неконста оу другомъ пакъ лѣтѣ. стала межи на замятна. нашь племеньни. бекбулатъ. и хожа мединъ оучинилисѧ намъ ворогъ. и оуста на на. и ѳире к тымъ. бекгичь. и турдучакъ. берди. дакыдъ ти кнѧ. головний. мои были слуги. и тии стали намъ ворогъ. и оу мене служачи. и почали коромолити на мене. посласѧ ѿдного на имѧ. идикгиѧ. до аксакъ темирѧ. на мене лиго мыслячи. по тыхъ посланию. по идикгиеву посольству. вышолъ на мене аксакъ темирь. желѣзнаѧ нога. ѿ чорного пѣска. тогда аксакъ. пришолъ такъ тайно на насъ. аже не было намъ никакоѣ вѣсти а ни слова. алижь оузрѣли есмо его оу нашой державѣ мы па не поспѣли есмо и спратати всеѣ силы нашеѣ. толко што wколо на нашь дворъ. есть и с тыми стали есмо противъ того аксака.

Мікалай КРЫЎКО – беларушчына.
Алена ШЧУКА – англійшчына.

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАКАНА́ЎЧА** і **ПЕРАКАНА́ЛЬНА** (даволі ўпэўнена, так, што можна паверыць) *Булай гаварыў упэўнена, натхнёна, пераканаўча* (Шыцік). *Асабліва пераканаўча паказана пісьменнікам роля сацыяльнага асяроддзя ў фарміраванні чалавечага характару* (Фіглоўская). *Ён [Язэп] стараўся гаварыць пераканальна, але хваляванне перашкаджала. І ўсё ж Язэпу здалося, што Шугай пачынае вагацца, быццам згаджаецца з ім* (Асіпенка). *Па-мастацку пераканальна працягвае пісьменнік свой лірычны сказ аб загубленай душы* (Майхровіч), **ВА́ЖКА** *Сяміпалаў гаварыў пераканаўча, важка, і трудна было пярэчыць яму* (Колас). *Гаварыў старшыня роўна, не павышаючы і не паніжаючы голасу, націскі рабіў стукам алоўка аб стол, паўзамі. Атрымоўвалася важка, пераканаўча, салідна* (Шамякін). *У вуснах такога чалавека, які ніколі не стане раскідвацца словамі дзеля слоў, — такое прызнанне можа прагучэць важка і моцна* («Работніца і сялянка»), **ДО́КАЗНА** *Усё атрымлівалася добра: на ўсе пытанні Антон даў шырокі і грунтоўны адказ і радаваўся з таго, што гаворыць гладка, доказна, і быў нават крыху здзіўлены, калі размова скончылася* (Савіцкі). *Аргументавана, лагічна, доказна вядуцца, бадай, усе навуковыя спрэчкі ў кнізе І.Ралько* (Рагойша).

**Пераканаўча.** Persuasively, convincingly, cogently. Усе гэтыя сінанімічныя прыслоўі ўтвораныя ад адпаведных прыметнікаў (глядзі ніжэй) пры дапамозе асноўнага суфікса англ. прыслоўя *-ly.*

**ПЕРАКАНА́ЎЧАСЦЬ** і **ПЕРАКАНА́ЛЬНАСЦЬ** (уласцівасць пераканаўчага — тое, што прымушае паверыць чаму-н.) *Аля не запярэчыла на гэтыя словы, і ён [Леанід] адчуў, што думка яго знайшла якраз тую яснасць і пераканаўчасць, якую ён шукаў* (Мележ). *— Лях зоры не хапае з неба. — Берасцень нават губы падкрывіў, каб прыдаць пераканаўчасці сваім словам* (Лобан). *І была ў голасе гэтага разумнага, упэўненага ў сваёй праўдзе чалавека такая пераканальнасць і такі ўнутраны агонь, што я глянуў яму ў вочы і ... даў згоду* («Полымя»), **ВА́ЖКАСЦЬ** *Важкасць аргументаў. Марат задумаўся. І загаварыў потым хутка, з важкасцю ў голасе* (Ярашэвіч). *Паўлік адчуў, што ў апошніх словах сябра няма патрэбнай важкасці. Слабаватыя яго довады* (Беразняк), **ДО́КАЗНАСЦЬ** *Доказнасць фактаў. Разважлівая доказнасць Тышкевіча абурала Міхася* (Асіпенка). *У цэлым кніга «Станаўленне беларускай прозы і фальклор» вызначаецца якраз доказнасцю і грунтоўнасцю фактычнай асновы* (Бугаёў).

**Пераканаўчасць.** Persuasiveness, cogency. У абодвух назоўніках паўтараюцца тыя ж карані, што і ў паданых вышэй прыслоўях.

**ПЕРАКАНА́ЎЧЫ** і **ПЕРАКАНА́ЛЬНЫ** (пра доказы, довады, аргументы, прычыны і пад.: такі, які прымушае паверыць чаму-н.) — *Бачыў, які я разгірака? Ногі — дугі. Значыцца кавалерыст, — прыводзіць ён [цесць] пераканаўчы доказ свайго кавалерыйскага мінулага* (Хомчанка). *Насупраць гэтай страфы стаіць лаканічны, але пераканаўчы вывад: «Добра!»* (С.Александровіч). *Андрэю здавалася, што Ірына дарэмна так нездаволена сабою. Ён кінуўся быў суцешыць яе, але не знайшоў пераканальных слоў* (Сапрыка). **ВА́ЖКІ** *Калі яна [Вера] палахліва адхінулася ад яго [Мікалая], зноў сцішаў голас, кідаў ёй у твар самыя важкія, як яму здавалася, довады* (Дамашэвіч). *Дык што ён [Уладзімір] скажа ім, сваім вялікім сучаснікам?.. Напэўна, самым важкім адказам на іх давер'е будзе ягоная праца* (Карпачоў), **ДО́КАЗНЫ** *Доказнае пярэчанне. Гэта аргументацыя не была б, аднак доказнаю, каб яе Корж не ўдакладніў* (Лойка).

**Пераканаўчы**. Тут англійскіх адпаведнікаў больш, чым да іншых часцін мовы: persuasive, convincing, compelling, forceful, cogent. Усе яны ўтвораныя ад запазычаных асноваў.

**ПЕРАКАНА́ЦЦА** (перастаць сумнявацца ў чым-н. дзякуючы якім-н. фактам, доказам і пад.) *Разгледзеўшы звера, я пераканаўся, што гэта быў воўк* (Колас). *Прагледзеўшы корм, які складаўся галоўным чынам з мышэй і палёвак, усе пераканаліся, што канюк — вельмі карысная птушка* (Самусенка), **УПЭ́ЎНІЦЦА** *Суддзі нарэшце ўпэўніліся, што ад сведак, якіх прыводзілі адразу з астрога ў суд, карысці мала* (Машара). *Усе ўпэўніліся, што Канстанцін Раманавіч, апроч таго, што дзелавы і прынцыповы, дык яшчэ просты і шчыры чалавек* (Гроднеў), **УВЕ́РЫЦЦА** размоўнае (набыць цвёрдую ўпэўненасць, перакананасць у чым-н.) *[Калядка:] — Ну як, таварыш Кавалёў, што вы выхадзілі? [Кавалёў:] — Па праўдзе сказаць, нічога. Толькі ўверыўся, што балота непраходнае* (Чарнышэвіч). *Мікульскі паклікаў Андрыяна, каб уверыцца, ці сапраўды хлапчук з Клёнавіч* (Марціновіч). — *Незаконча́нае трыванне*: **Перако́нвацца, упэ́ўнівацца, увяра́цца**.

**ПЕРАКАНА́ЦЬ** (прымусіць паверыць чаму-н. пры дапамозе якіх-н. сцвярджэнняў, доказаў, фактаў і пад.) *Алесь разгубіўся. Макар Сяргеевіч не тое, што пераканаў яго, а пасеяў сумненні* (Шыцік). *Я думаў напісаць некалькі раманаў, пра што неасцярожна аднойчы прагаварыўся, але вопыт работы над двума раманамі пераканаў мяне ў тым, што трэба быць больш асцярожным у сваіх спадзяваннях* (Мележ), **УПЭ́ЎНІЦЬ** *Не будучы ні ў чым вінаватай, Марына плакала і яшчэ больш неўзлюбіла сваю работу. Ермаліцкі стараўся ўпэўніць яе, што ў непрыемнасці гэтай вінаваты толькі Собіч* (Скрыган). *Два наступныя допыты толькі ўпэўнілі капітана ў віноўнасці абодвух затрыманых* (Асіпенка), **ЗАПЭ́ЎНІЦЬ** — *Не вер, дзіцятка, калі будуць гаварыць благое пра твайго тату, — пацалавала бабуля ўнука і запэўніла: — Тата цябе любіць і прыедзе...* (Пальчэўскі). *Дзядзька Карней запэўніў, што асеннімі пасадкамі займацца яшчэ не позна* (Якімовіч), **ЗАВЕ́РЫЦЬ** — *Прыйду, прыйду, — заверыла Зося [Рыгора], моцна паціскаючы яго руку* (Гартны). *Узяўся парты парабіць Дырэктар райпрамкамбіната. «Усё зраблю, як мае быць! — заверыў ён, — клянуся — свята!»* (Корбан), **УВЕ́РЫЦЬ** разм. *[Марта:] — Я ўсё-такі думаю адно: нам трэба ўгаварыць Зосю, трэба перш уверыць яе, а тады ўжо крутыя меры прыняць...* (Гартны). *[Гарбачыо:] — А можа Любоў сапраўдная і старасць парастак новы Дасць роду вашаму, бо вера горы рушыць, Паверце самі і людзей уверце ў гэтым* (Клімковіч). — *Незак.*: **Перако́нваць, упэ́ўніваць, завяра́ць, увяра́ць**. — *Параўнайце*: **Угаво́рваць**.

— **Перакана́нне** і **перако́нванне, упэ́ўніванне, запэ́ўніванне, завярэ́нне, увярэ́нне**.

**Пераканаць**. Адпаведных сінанімічных дзеясловаў тры: persuade, convince, satisfy. Зноў-такі ўсе гэтыя адзінкі з'яўляюцца запазычаннямі.

Лёгка заўважыць, што як і ў беларускай частцы большасць англійскіх адпаведнікаў утвораная ад адных і тых жа каранёў. Так, карані дзеясловаў persuade, convince паўтараюцца ў прыметніках persuasive, convincing і прыслоўях persuasively, convincingly, а корань прыметніка cogent знаходзім у назоўніку cogency і прыслоўі cogently. Такім чынам, параўнанне гэтых сінанімічных радоў цікава і тым, што дэманструе існаванне паралельных словаўтваральных гнёздаў у абедзвюх мовах.

**ПЕРАКІ́ДАЦЬ** (кідаючы адно за другім, перамясціць куды-н. усё або многае) *Ніна Іванаўна перакідала свой стос дакументаў хутчэй за Тацяну* (Васілёнак). *Радавацца б тут Яначку, але як падумае, што ўвесь гэты гной прыйдзецца яму сахаром уздзерці ды на воз перакідаць, страх бярэ* (Крапіва), **ПЕРАШПУРЛЯ́ЦЬ** разм. *Перашпурляць усе клункі на воз.* — *Незак.*: **Перакіда́ць** і **перакі́дваць, перашпу́рваць**.

**Папраўка**

У артыкуле на слова «2. Перадаць» (№ 13) у пераліку сінонімаў англійскай мовы павінен быць трэці: *to go over the top*. Памылкова заменены літары ў сінонімах (да слова «Перадражніць»): *take somebody off* і *do a take off*, а таксама ў *dying wish* і *death* (артыкул «Перадсмяротны»).

Просім прабачэння ў аўтара.

## Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*«...А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем».*

**Леў САПЕГА. Прадмова да Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.**

Фактарам набыцця старабеларускай мовай дзяржаўнасці стала ўзнікненне самой дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, якому папярэднічалі асобныя княствы — Полацкае і Тураўскае. Полацкае княства было самым магутным на Беларусі ў X—XIII стст. Гістарычным ядром княства было княжанне крывічоў—палачан. Ужо пры першым згадванні Полацка пад 862 годам у Іпацьеўскім летапісе адзначаецца, што ён не падпарадкоўваўся Кіеву. Полацкае княства ўключала тэрыторыі сучаснай Віцебскай і поўначы Менскай абласцей. Уладанні полацкіх князёў прасціраліся па ніжняму цячэнню Заходняй Дзвіны (Даўгавы), дзе знаходзіліся гарады Кукенойс і Герсіка, да Рыжскага заліва. У апошняй трэці X ст. у Полацку сядзеў незалежны ад Кіева і Ноўгарада князь Рагвалод. Полацк часам называюць горадам-дзяржавай, які супернічаў са Смаленскам, Ноўгарадам і Кіевам за суседнія тэрыторыі. На працягу некалькіх стагоддзяў Полацк быў стольным горадам буйнога княства — асобнай усходнеславянскай дзяржавы са сваёй княскай дынастыяй, вечавым ладам, моцным войскам. На поўдні яна межавала з Тураўскім княствам, да якога прымыкалі многія суседнія гарады.

У Верхнім Панямонні (Чорнай Русі) у XIII ст. летувіскі князь Міндоўг заснаваў новую незалежную дзяржаву — Новагародскае княства, якое і стала зародкам буйной еўрапейскай дзяржавы — Вялікага Княства Летувіскага, Рускага, Прускага, Жамойцкага. У 1252 г., паводле Густынскага летапісу, Міндоўг каранаваўся ў Новагародку і прыняў тытул караля. XIII стагоддзе азнаменавалася рэзка ўзрослай небяспекай іншаземнай агрэсіі. З паўночнага захаду беларускім землям пагражалі крыжаносцы, з паўднёвага ўсходу — татара-манголы. Полацкае княства, якое ў свой час першым вылучылася з аб'яднання ўсходнеславянскіх княстваў, мела багатыя традыцыі незалежнага і самастойнага існавання, магло б аб'яднаць у адну дзяржаву знямоглыя ад феадальных міжусобіц навакольныя землі. Але ж Полаччына ў XIII ст. з-за страты выхаду да Балтыі, зацяжной барацьбы з крыжацкай агрэсіяй не была ўжо такой магутнай, як у папярэднія стагоддзі. У сярэдзіне XIII ст. цэнтр палітычнага жыцця на беларускіх землях перамяшчаецца ў Новагарадок, які падчас двух вялікіх процістаянняў — з крыжакамі і татара-манголамі — быў адносна бяспечнай тэрыторыяй. Так новагародская зямля разам з суседнімі з ёй летувіскімі і стала ядром зараджэння новай дзяржавы ў верхнім і сярэднім Панямонні, якая атрымала назву Летувіскае княства. Шляхам забойстваў з гістарычнай арэны былі прыбраны Міндоўг, ягоны сын Войшалк, Транята. Вялікі князь Віцень (1293—1316) увёў агульнадзяржаўны герб «Пагоня». Пры Гедыміне (1316—1341) межы княства пашырыліся амаль на ўсю беларускую тэрыторыю. Больш стагоддзя Летувіскае княства станавілася Вялікім Княствам Летувіскім, Рускім, Жамойцкім. Да сярэдзіны XV ст. дзяржава афіцыйна называлася Вялікім Княствам Летувіскім і Рускім, пазней — Вялікім Княствам Летувіскім, Рускім, Жамойцкім і іншых зямель. У Вялікім Княстве Летувіскім назва «Летува» адносілася да верхняга і сярэдняга Панямоння, а «Русь» — да верхняга Падзвіння Падняпроўя. Сучасныя заходнія этнічна летувіскія землі (Жмудзь) далучыліся да ВКЛ у першай палове XV ст. На добраахвотна-дагаворнай аснове ў склад Летувіскай дзяржавы ўвайшлі ў свой час найбольш буйныя беларускія землі — Полацкая і Віцебская.

Сярод усіх этнасаў і этнічных тэрыторый, што прымалі ўдзел у заснаванні Вялікага Княства Летувіскага, вядучае месца займалі славянскія (землі этнічных летувісаў складалі толькі 1/15 частку княства). Дзякуючы гэтаму дзяржаўнай мовай і стала мова славянскага насельніцтва. Фармальна гэтая мова была агульнай літаратурна-пісьмовай мовай для тагачасных беларусаў і ўкраінцаў. Аднак ужо ў той час дакументы, напісаныя на этнічных беларускай і ўкраінскай тэрыторыях, у моўных адносінах адрозніваліся. (Аб адрозненнях украінскай мовы ад беларускай гл. у раздзеле «Украінская мова».)

Мовай пераважаючага славянскага насельніцтва ВКЛ карысталіся не толькі славяне, а і прадстаўнікі іншых этнасаў, якія насялялі княства. Найперш трэба адзначыць сузаснавальнікаў княства — летувісаў. Яшчэ ў XV ст. Ян Ліцьвін (Джон Летоў), які заснаваў друкарню ў Лондане за 30—40 гадоў да Скарыны, дапамагаў славянскаму першадрукару Феолю Швайпольту выпусціць першыя царкоўнаславянскія кнігі для русінаў, г.зн. для беларусаў і ўкраінцаў (Кракаў, 1491 г.). У мове гэтых кніг даволі прыкметна выступаюць рысы беларускай мовы, з-за чаго іх іншы раз называюць беларускімі. Скарына, выпусціўшы ў Вільні кнігі на мове, зразумелай сваім суродзічам, аказаў уплыў на летувіскіх першадрукароў Марцінаса Мажвідаса і Мікалоюса Даўкшу (гл. аб іх падрабязней у раздзеле «Летувіская мова»). Аб карыстанні летувісамі ў якасці афіцыйнай беларускай мовай сведчыць, напрыклад, судовы акт 1582 г., урывак з якога мы прыводзім: «ворота посекши и у двор уломившысе, наперве́й у бровар впадшы, где я, Матыс, с поддаными пана моего пиво зливал»... Часам судовыя акты, напісаныя на этнічна летувіскай тэрыторыі па-беларуску, адлюстроўваюць асобныя рысы летувіскае мовы, як, напрыклад, у наступным урыўку з дакумента 1558 года: «А ижъ знаки на некоторыхъ местцахъ помешалисе взгладомъ однятихъ немало кгрунтовъ тихъ бояръ до селъ нижей помененихъ». Захавалася цалкам напісаная па-беларуску пісарамі-летувісамі «Кніга Каўнаскага земскага суда» (XVI ст.). Па апісках убок летувіскае мовы, зробленых пісцамі, па гэтай кнізе можна вывучаць фанетыку тагачаснай летувіскай мовы.

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»

Сымон БАРЫС

# Як у нас клічуць?

### Мужчынскія імёны

*(Працяг.)*

**Церах**. Цярэнцій. Терентий (лац.) — дакучлівы, вытанчаны, патончаны (грэч.) — расціраючы. Вытв.: Цярэшка, Цярох. Імяніны: пр. 26.03; 23.04; 4.07; 10.11. Імя па бацьку — Церахавіч, Церахаўна і Цярэнцьевіч, Цярэнцьеўна.

**Цімох**. Цімон. Цімафей. Тимофей (грэч.) — той, хто шануе Бога. Вытв.: Ціма, Цімошка, Цімось, Цімоха. Імяніны: пр. 1.01; 3, 4, 7.02; 6.03; 16.05; 2, 23.06; 10.08; 1.09; кат. 26.07; 6.03; 21.05. Імя па бацьку — Цімохавіч, Цімохаўна і Цімонавіч, Цімонаўна, а таксама Цімафеевіч, Цімафееўна.

**Ціт**. Тит (грэч.) — паважны, шаноўны. Вытв.: Ціток, Цітусь. Імяніны: пр. 17.01; 12.03; 17.09; кат. Тытус — 4.01; 26.01. Імя па бацьку — Цітавіч, Цітаўна.

**Ціхан**. Тихон (грэч.) — шчаслівы, шчасце. Вытв.: Ціханчык, Ціханец, Ціханка, Ціханя, Ціхась, Ціхаш. Імяніны: пр. 29.06; 9.07; 26.08.

**Эдвард**. Эдуард (са стараням.) — абарона ўласнасці. Вытв.: Эдзік, Эдзя, Эдзюк, Эдзісь, Эдзька. Імяніны: кат. 5.01; 18.03; 13.10. Імя па бацьку — Эдвардавіч, Эдвардаўна.

**Эдмусь**. Эдмунд (са стараням.) — ахова ўласнасці. Імяніны: кат. 30.10; 16.11; 1.12. Імя па бацьку — Эдмусевіч, Эдмусеўна і Эдмундавіч, Эдмундаўна.

**Эмануіл**. Эммануил (са стараяўр.) — з намі Бог. Імяніны: кат. 26.03. Імя па бацьку — Эмануілавіч, Эмануілаўна.

**Эміль**. Эмиль (лац.) — рымскае родавае імя. Вытв.: Эмілік, Эмілька. Імяніны 11.10; 14.11. Імя па бацьку — Эмілевіч, Эмілеўна.

**Эраст**. Эрык. Ераст (грэч.) — той, які кахае. Вытв.: Эрык. Імяніны: пр. 23.11; кат. Эрыка — 18.05. Імя па бацьку — Эраставіч, Эрастаўна.

**Эрнест**. Імя па бацьку — Эрнеставіч, Эрнестаўна.

**Юліісь**. Юльян. Юлий ад Иулий (лац.) — рымскае родавае імя, якое з грэч. — кучаравы. Вытв.: Юлік, Юлічак, Юля, Юлё, Юльчык, Юлюк, Юлюсь, Юльяне. Імяніны: пр. 21.01; 19.02; 1, 29.03; 16.06; 11, 26.07; кат. 7.01; 29.03; 4.07; 18, 31.10. Імя па бацьку — Юлісевіч, Юлісеўна і Юльянавіч, Юльянаўна, а таксама рэдка Юльевіч, Юльеўна.

**Юры**. Юрась. Юрий — славянская форма ад імя Георгий (грэч.) — земляроб. Вытв.: Юра, Юрак, Юран, Юранік, Юранька, Юрасёк, Юрасік, Юраська, Юрашка, Юрка, Юрок, Юрачка, Юрчык, Юрык, Юрачык, Юрэк, Юрэц. У польскай мове — Ежы, Ерка. Імяніны: пр. 17.02; кат. Ежы 23.04; 24.08. Імя па бацьку — Юравіч, Юраўна і Юрасевіч, Юрасеўна.

**Юстын**. Устин (лац. Иустин) — праведны, справядлівы. Вытв. Юсцік, Юсцічык, Усцінка, Усцімка, Юстусь, Юстук, Юстыян. Імя па бацьку — Юстынавіч, Юстынаўна.

**Ягор**. Егор (руская форма ад імя Георгий). Вытв.: Ягорка, Юрка, Ягорчык. Імяніны: пр. 6.05. Імя па бацьку — Ягоравіч, Ягораўна.

**Язэп**. Иосиф (кананічнае імя ў праваслаўных), Юзаф (Juzef — каталіцкае імя). Иосиф (яўр.) — прымножаны, павялічаны. Вытв.: Еса, Ёсік, Язэпка, Ёзік, Язэпсусь, Юзік, Язэпчык, Юзя, Юзуль, Юзюта. Імяніны: пр. 8.02; 17.04; 20, 24.05; 10, 22, 29.09; 4.10; 16.11; кат. 4, 15.02; 19.03; 1.05; 23.06; 27.08; 18.09; 14, 27.11. Імя па бацьку — Язэпавіч, Язэпаўна.

Клуб перакладчыкаў

Наталля ЯКАВЕНКА

# Не губляць самага каштоўнага...

## («Віленскія камунары» на рускай мове)

Раман-хроніка «Віленскія камунары» — найбольш значны твор М.Гарэцкага. У перакладзе Агея Гатава на рускую мову публікаваўся двойчы — у 1966 і ў 1989 гадах. На жаль, другое выданне захавала як вартасці першага, так і недахопы. Апошнія, між іншым, абавязкова мусяць быць выяўлены і выпраўлены — інакш мы рызыкуем і ў наступных перавыданнях з імі сустрэцца.

Напачатку аб вартасцях.

А.Гатаў амаль не адыходзіў ад тэксту арыгінала, стараўся адшукаць кожнаму слову вартыя адпаведнікі на рускай мове. Перакладчык адчуў і добра перадаў уласцівую твору іранічную інтанацыю (не без пэўнай долі горычы), эмацыянальную атмасферу рамана. Іншымі словамі, А.Гатаву збольшага ўдалося перадаць стыль М.Гарэцкага.

Тым не менш ёсць і «але».

Асноўнай памылкай перакладчыка з'яўляецца тое, што ён надае твору некаторую ўзвышанасць апавядання.

Напрыклад, бяруцца аднамерныя словы афіцыйна-дзелавога стылю:

«За ним вышел еще один **претендент на право аренды**».

У той час як у арыгінале:

«За ім выйшаў той, **каторы меўся** ў блізкім часе **перабіць яму арэнду**».

Так спрашчаецца выраз і знікае вобраз. Тое самае і ў наступным прыкладзе:

«...её исключили **за плохую успеваемость**».

У арыгінале:

«...выключылі яе **за ціхія поспехі ў навуках**».

Ці вось яшчэ:

«Постепенно отец **пристрастился** к чтению».

У арыгінале:

«Бацька мой **патроху вельмі ў чытанне ўеўся**».

І гэта раз за разам, нібы перакладала машына, якой чужыя нюансы чалавечага пачуцця, успрымання.

Або такое:

«...схватила его за волосы и стала **злобно избивать**».

У арыгінале: «...схапіла яго за валасы, прыгнула і пачала **люта калашмаціць**».

«Люта калашмаціць» і «злобно избивать» выразы, блізкія па значэнні. Блізкія, але не тоесныя: у арыгінале больш ярка перададзеныя падзеі, ёсць іранічная афарбоўка сітуацыі, у той час як у перакладзе няма ні іроніі, ні эмацыянальнай дакладнасці.

Густ перакладчыка добра ілюструе наступны прыклад:

«Комендант **скривился**, но **вытащил** блокнот...»

У арыгінале:

«**Скрывіўён морду**, але **дастаў** блакнот, запісаў імя і прозвішча і маё і Яніна...»

Перакладчык як бы саромеецца сітуацыі грубасці і згладжвае яе. Але, напэўна, М.Гарэцкі нездарма выбраў такія словы: яны ў гэтым эпізодзе найбольш адпавядаюць унутранаму стану героя і адлюстроўваюць яго адносіны да падзей і да таго ж каменданта. Так, можа, і не варта было баяцца гэтага «моцнага» выразу?

Яшчэ адна памылка, якую дапускае А.Гатаў — калі слова замяняецца не зусім дакладным рускамоўным адпаведнікам:

«Махлярчик **во всю прыть** пополз от него раком».

У арыгінале:

«Махлярчык папоўз **скоранька** ад яго ракам».

Наўрадці можна паўзці «во всю прыть», хутчэй так можна пабегчы. Акрамя таго, слова «паўзці» само абумоўлівае замаруджанасць дзеяння, якое можна пастарацца зрабіць «скоранька» і не больш таго.

«На улицы **выползают** щёголи и щеголихи военного времени».

У арыгінале:

«На вуліцы ўжо **з'яўляюцца** франты і франціхі ваеннага часу».

Тут ужо зусім недарэчна ўжыта слова «выползают».

Яшчэ чамусьці перакладчык блытае такія паняцці, як *работа, прафесія, пасада*. Вось некалькі прыкладаў:

«...спрабавала ўсякую **работу**».

«...испробовала все **профессии**»(?!)

«...і застаўся на сталай гарбарскай **рабоце**».

«...получил теперь постоянную **должность** (?!) кожедела».

Максім Гарэцкі як мастак слова працаваў у той час, калі беларускай літаратурнай мовы па сутнасці яшчэ не было, яна толькі пачынала фарміравацца. Але пісьменнік знайшоў свой адметны, непаўторны стыль, звяртаючыся да народнага слова. І хочацца, каб у перакладах ягоных твораў не гублялася тое каштоўнае, што захоўвае ў сабе сутнасць стылю, светабачання, выяўлення асобы і творчай індывідуальнасці.

Творчасць нашых чытачоў

## Роспач і спадзяванне

Ды ён амаль глухі — Дваццаты век:
Грыміць жалеззе, б'е у вушы...
І — разгубіўся чалавек,
Крычыць: «Ратуйце нашы душы!..»
А хто б такое яшчэ змог?
Адзіна Ён — наш добры Бог.

## Сабе

Памятай сабе толькі добрае!
Май надзеі на лепшае —
Светлы лёсу працяг.
Не жыві абы-як!

**Уладысь ЖЫГАЛКА.**
г.Менск.

Мама, пачытай!

### Ясь

Ясь на яблыню залез:
— Гляньце ўсе, дзе я! —
хваліўся.
Раптам трэснуў сук і ледзь
Хлопчык з дрэва не зваліўся.

— Што, спужаўся, сын? —

Але
Звонкім смехам Ясь заліўся!

### Смачны сняжок

Снегу больш няма ужо:
З'ела сонейка сняжок.
З'ела, як Віталік кашу.
Усміхнулася
І кажа:
— Ну сняжок і смачны быў жа,
Што...
Праменьчыкі абліжаш.

### Чарапаха



Чарапаха — хі-хі, ха-ха! —
Ледзь не скача гапака:
«Бач, я хуткая якая —
Абагнала слімака!»

## Далікатны заяц

Іван Мікалаевіч, чалавек сталых гадоў, увайшоў у аўтобус. Акінуў позіркам салон — ніводнага свабоднага месца. Што ж, трэба стаяць, і Іван Мікалаевіч умацаваўся каля крэсла, на якім разваліўся малады чалавек. Раптам хлопец ускочыў, кінуў «сядайце» і знік у натоўпе. Іван Мікалаевіч павольна апусціўся ў крэсла і звярнуўся да жанчыны, якая сядзела побач:

— Аказваецца, дарэмна нашу моладзь лаюць. Вось бачыце, які далікатны юнак — старэйшаму ўступіў месца. Я нават падзякаваць не паспеў. Жанчына толькі ўсміхнулася, і тут Іван Мікалаевіч заўважыў, што ў аўтобус увайшоў кантралёр.

**Віталь ЖУРАЎСКІ.**
г.Жодзіна.

Слоўнікі

## Як адвобразіць адлюстраванне?

Бібліяграфія расійска-беларускіх матэматычных слоўнікаў папоўнілася яшчэ адным выданнем (Л.Латоцін. Руска-беларускі слоўнік матэматычных тэрмінаў. — Выдавецтва Магілёўскага педінстытута, 1994). Матэматыкі ў галіне ўдасканалення беларускамоўнай тэрміналогіі сваёй навукі працуюць, відаць, больш актыўна, чым іншыя навукоўцы: гэта ўжо трэцяе выданне такога роду за апошнія два гады. Застаецца толькі браць напрацаванае да карыстання — падказваю аб гэтым хаця б арганізатарам абласных і рэспубліканскіх матэматычных алімпіяд школьнікаў. Бо, на жаль, і ў гэтым годзе тэксты заданняў абласных алімпіяд былі падрыхтаваны ў Менску чамусьці толькі на расійскай мове і гэта паставіла вучняў беларускамоўных школ у неспрыяльныя ўмовы: прывучаныя афармляць свае думкі на беларускай мове, яны і тут імкнуліся спалучыць расійскамоўны тэкст задачы са сваім беларускамоўным мысленнем і... — што атрымалася, можна паглядзець у іх работах. Для кагосьці тут узнікае яшчэ адна магчымасць аб'явіць, што тыя, каго вучаць на беларускай мове, маюць недастаткова развітое мысленне.

Але вернемся да ўпамянутага слоўніка. Фактычна гэта ўжо другое яго выданне (першае, ратапрынтнае, было годам раней) і ў ім улічаны некаторыя крытычныя заўвагі, зроблены папраўкі. Аднак не ўсе яны мэтазгодныя і слушныя. На адной з такіх паправак я і хачу спыніцца, не беручы на сябе абавязку зрабіць поўны аналіз слоўніка (адзначу ўсё ж, што лічу выданне змястоўным і карысным, не зважаючы на шэраг спрэчных дэталей).

Два дзесяцігоддзі таму, калі пачыналася рэформа школьнай матэматычнай адукацыі і ў школьныя падручнікі матэматыкі прыйшлі тэрміны, якіх раней там не было, узнікла праблема перакладу гэтых тэрмінаў на беларускую мову. Па асобных з іх было шмат спрэчак, і вусных, і ў друку.

Непрерывная функция — як перакласці? Безупынная? Несупынная? Бесперапынная? Неразрыўная? Неперарыўная? Непарыўная? — вось колькі варыянтаў пераспрабавалі. Спыніліся на двух апошніх. З цягам часу больш кароткі варыянт выціскае (амаль ужо выціснуў) свайго даўжэйшага сабрата.

Не бракавала праблем і з перакладам слова «отображение». Варыянтаў было менш, усяго два, але спрэчкі вяліся не менш бурныя. Пачалі з «адлюстравання». Але (дзякуючы, напрыклад, сп.Карабёнку з Віцебска) спахапіліся, што адлюстраванне — гэта «отражение», бо люстра «отражает», а не «отображает». А «отображение» паходзіць ад слоў «от образа» — «ад вобраза», таму: адвображанне. Урэшце такі варыянт і прыжыўся ў матэматычных тэкстах. Такі варыянт (отображение — адвображанне) і скарыстаў сп. Латоцін у першым выданні свайго слоўніка. Але следам выйшлі «Русско-белорусский математический словарь» пад рэд.прафесара Я.Радыны і «Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ» (саст.: Т.Сухая і інш.), дзе «отображение» перакладалася чамусьці зноў як «адлюстраванне». Такой масіраванай атакі (два названыя слоўнікі рыхтавалі 13 чалавек з тытуламі) сп.Латоцін не вытрымаў і здаўся: у новым выданні яго слоўніка — «адлюстраванне».

На маё здзіўленне, такім нечаканым паваротам Лявон Аляксандравіч растлумачыў, што яго пераканалі, быццам у слове «адвображанне» прымітыўная калька з расійскай мовы.

Сапраўды, не заўсёды апраўданая арыентацыя на расійскую мову — гэта зацяглая хвароба беларускай мовы, і несумненна тое, што ад гэтай хваробы мову трэба лячыць. Але ж лячэнне не павінна прыводзіць да яе збяднення (у Л.Латоціна і «отражение», і «отображение» перакладаюцца як «адлюстраванне»). Па-другое, не ўсё дрэнна тое, што з Расіі.

У расійскамоўнай матэматыцы, сапраўды, існуюць тэрміны відавочна няўдалыя, — іх не трэба пераносіць у беларускую мову. Да прыкладу, «скрещивающиеся прямые». Мала таго, што трэба добра паламаць язык, каб гэта выгаварыць, але ж тут і скажоная сутнасць. «Скрещивание» (прабачце, не біялагічнае) ад кораня «крест», што падразумявае перасячэнне («перекрёсток — пересечение дорог»). Але «скрещивающимися» прамымі ў матэматыцы называюць прамыя, якія не перасякаюцца. Таму тут ужо абавязкова трэба было б пашукаць аналагі ў іншых мовах. І знайшлі б ва ўкраінскай: «мімобіжни». Мімабежныя прамыя — цудоўны варыянт для беларускамоўнай матэматыкі. Але ж ва ўсіх слоўніках тут калька з расійскай мовы: скрыжавальныя (у Латоціна) ці крыжаваныя (у астатніх) з коранем «крыж».

А з «адвображаннем» калькаваць не захацелі?

Тут мне стала цікава, як Л.Латоцін пераклаў знакамітае «непрерывная функция». Выявілася: непарарыўная функцыя. Хутчэй за ўсё, тут нейкая памылка, якіх у слоўніку нямала. Але калі бачу «зависеть — залежЫць», то тут я ведаю, што трэба ўсё ж чытаць «залежАць». А як чытаць «непарарыўная»? Неперарыўная, — як было ў першым выданні слоўніка? Ці непарыўная, — адпаведна волі больш тытулаваных аўтараў?

Шкада, што рэцэнзентамі слоўніка былі толькі філолагі — прафесар В.І.Рагаўцоў і дацэнт А.С.Лаўшук. Погляд рэцэнзента-матэматыка тут не быў бы лішнім. Дарэчы, зноў жа цікава, чаму тытулаваныя філолагі, якія рэцэнзавалі і першае выданне слоўніка, спачатку пагадзіліся з «адвображаннем», а потым гэтак жа прыязна прынялі «адлюстраванне»? Ці ім усё роўна? Звярнуўся да апошняга (трохтомнага) выдання «Русско-белорусского словаря» (Мн., Беларуская энцыклапедыя, 1993). У другім томе на с.400 чытаю «отображение — адлюстраванне», а на с.407: «отражение — ... адлюстраванне;.. (отображение) адвображанне». Туману, як бачым, не стала меней. І праблема застаецца.

**М.БУЛАВАЦКІ,**
**ст.выкладчык кафедры методыкі выкладання матэматыкі Магілёўскага педінстытута.**

## Збіраем матэрыялы для Крыўскай (Беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі

*(Працяг.)*

**Асіна.** Гэтае дрэва трапіла ў міфы і паганскага і хрысціянскага часу. Відаць, асіна здаўна ўяўлялася людзям незвычайнай, адметнай. Прадчуванне, а, верагодна, і адчуванне нейкіх яе асаблівасцяў, дало падставу для міфалагізацыі асіны. Будзем спадзявацца, што ў нашай энцыклапедыі знаўцы пададуць дакладны час узнікнення, складвання міфа пра асіну, як у свой час мовазнаўцы вызначылі арэал асялення першых славянаў паводле арэалу распаўсюджвання бука. Але ўжо сёння можна сказаць, што асіну выкарыстоўвалі ў магіі задоўга да Хрыстовага нараджэння. Відаць, таму хрысціянскае паданне пра тое, як асіна паводзіла сябе падчас уцёкаў Святога сямейства — не захацела сваім лісцем прыкрыць Марыю з немаўляткам Хрыстом, — не адалела паганскае, хаця часцей было наадварот. А, магчыма, усё ж сапраўды асіна, як падаюць экстрасэнсы ды некаторыя вучоныя — дрэва-вампір, якое спажывае чужую энергію. Менавіта з гэтай мэтай — каб асіна знішчыла, паглынула іх «чорную моц» — нашы прашчуры забівалі асінавыя калы ў магілы ведзьмакоў. Гэты матыў нашага паганскага міфа творча выкарыстаў наш славуты паэт, драматург і артыст Францішак Аляховіч. У адным з вершаў лірычны герой просіць забіць у ягоную магілу асінавы кол, «каб я устаць ня мог».

**Асяніны.** Гэтае слова — бадай адзіны сведка існавання ў нашых прашчураў восеньскага ахвяравання паганскім багам. Верагодна, пасля таго, як быў сабраны плён, нашы прашчуры прызначалі пэўную долю ўраджаю і прыплоду багам, якія апекаваліся збажынай у полі і гавядам на пашы. Як падае этнограф Сымон Вікенцевіч Барыс, дзеля гэтай мэты загадзя, яшчэ ўвесну, вызначалі парася, якое спецыяльна гадавалі ды калолі ўвосень. На карысць таго, што ахвяры складаліся не аднаму, а некалькім паганскім багам, сведчыць сама форма слова асяніны (множны лік). Не супярэчыць такой выснове згаданы, прыкладам, у «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» тэрмін 'восеньскі збор для царквы' — *асяніна* (адзіночны лік), вядомы з крыніц XII стагоддзя. (Пацвярджаць жа, што хрысціянскія святы і абрады «наклаліся» на былыя паганскія, мяркую, няма патрэбы.)

**Атарыца.** Гэтае дыялектнае слова або слова-тэрмін пазначае, верагодна, падобную да папярэдняй з'яву, толькі ў адносінах да бацькоў. Вядома, што падчас асноўных паганскіх святаў, звязаных з сонечнымі цыкламі і адпаведнымі зменамі ў прыродзе, ушаноўвалі і продкаў. Варылі куццю, неслі абрадавыя стравы на могілкі на радаўніцу — стараліся заручыцца падтрымкай родавых апекуноў да родных — дзядоў і бацькоў. На карысць меркавання пра існаванне культу бацькоў сведчыць і наша легенда «трэба шкадаваць старых».

Як вядома, дзеля памерлых продкаў ладзілі ўвосень спецыяльны абрад — дзяды. Жывым жа продкам — бацькам — таксама, і пры тым сама перш, прызначалася ахвяра — пэўная доля ўраджаю і прыплоду — *атарыца*. Менавіта з такім значэннем занатавана гэтае слова на Гарадзеншчыне.

Меркаванню пра атарыцу — ахвяраванне бацькам — не пярэчыць і этымалогія слова. Адны даследнікі выводзяць яго з летувіскага слова *ataras* 'баразна ад краю нівы', што, зрэшты, падобна на наша *араць, адараць.* Але менавіта летувіскі мовазнаўца даказвае, што наша *атарыца* ўтворана ад *атара* 'гурт авечак' і 'зямельнае ўгоддзе'. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы падае таксама, што ў некаторых дыялектах паўднёвай часткі нашай краіны атарыцаю называюць пасаг, а гэта тая ж доля матэрыяльнага прыбытку сям'і.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*(Працяг будзе.)*

## Не стала Пімена ПАНЧАНКІ

**Памёр народны паэт Беларусі Пімен Панчанка — чалавек шчодрай,багатай душы і вялікага таленту. Ён горача любіў свой народ і Радзіму і ўсімі сіламі змагаўся за беларускае нацыянальнае адраджэнне. Назаўсёды застанецца ва ўдзячнай памяці народа цудоўнае Слова паэта.**

*Пімен ПАНЧАНКА*

* * *

*Ільняная і жытнёвая.*
*Сялянская.*
*Баравая ў казачнай красе*
*Старажытнейшая,*
*самая славянская.*
*Светлая, як травы ў расе.*
*Вобразная, вольная, пявучая*
*Мова беларуская мая!*
*Дратавалі, здзекваліся, мучылі...*
*Ты жыла і ў працы, і ў баях.*
*Пра цябе, як сонечнае дрэва,*
*І Купала, ды і ўсе мы снілі сны...*
*Ад цябе, ласкавай і*
*праўдзівай,*
*Адракаюцца цяпер твае сыны.*
*Пра народ мой, цярплівы,*
*працавіты,*
*Помняць партызанскія лясы...*
*Хто за намі?*
*Пакаленне прагавітых*
*Халуёў я чую галасы.*
*Я спяваў пра жыта і пра*
*жаўранкаў,*
*Ненавідзеў ліхадзеяў*
*і прыгнёт.*
*А сягоння — вялікадзяржаўнікаў,*
*Што разбэшчвалі вялікі*
*мой народ.*
*Навучылі не рабіць —*
*хлусіць і красці,*
*Дзеці ў школы з іншай*
*моваю бягуць*
*Я хацеў, нашчадкі, вас*
*праклясці,*
*Ды люблю сваю зямлю...*
*І не магу.*

## У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

*ў красавіку*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 19 серада | Вечар з Аляксеем ГАРДЗІЦКІМ | 18.30 | кавярня |
| 20 чацвер | Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва | 15.00 | канферэнц-зала |
| 20 чацвер | «Той люд жыве, што свае песні мае» Да 155-х угодкаў нараджэння Францішка БАГУШЭВІЧА | 18.30 | вялікая зала |
| 25 аўторак | «Вясна красна на ўвесь свет» Велікодная вечарына | 18.30 | вялікая зала |
| 26 серада | Секцыя прозы «Наш госць — Іванаўскае літаратурнае аб'яднанне | 15.00 | канферэнц-зала |
| 27 чацвер | «Дагарэла свечачка...» Спектакль тэатра Беларускага універсітэта культуры па аднайменнай п'есе Алеся ПЕТРАШКЕВІЧА | 18.30 | вялікая зала |
| 28 пятніца | «У творчай сябрыне» Літаратурна-мастацкая вечарына выдавецтва «Юнацтва» | 18.30 | вялікая зала |

**Уваход свабодны**
**г.Менск, вул. Фрунзе, 5**
**тэл.36-09-09**

## «Бедны Ёрык»

Беларуская ананімная літаратура мае даўнія традыцыі існавання — ад «Тараса на Парнасе» і «Сказа пра Лысую Гару» да твораў навейшага часу, не толькі аўтары, але і героі якіх хаваюцца за псеўданімамі.

Апошняй падзеяй гэтага жанру стаў ужо не асобны літаратурны твор, а цэлы часопіс, першы нумар якога выйшаў у сталіцы. Назва новага выдання — «Бедны Ёрык» — можа падацца дзіўнай: магчыма, — гэта вынік захаплення яго аўтара (аўтараў?) Шэкспірам. Бо ўжо ў першым нумары дзве публікацыі маюць шматабяцаючыя назвы: «Гамлет, прынц дацкі» (інтэрпрэтацыя 1995 г.) і «Гамлет і псіхааналітык». Мэта іх, як і ўсіх іншых (і гэта не хаваюць аўтары), — выклікаць шок, а спосабы дасягнення яе — пародыя, чорны гумар, абсурд. Але, магчыма, гэта — найлепшыя сродкі адлюстравання абсурднасці цяперашняга жыцця краіны?

Так ці інакш, спіс беларускіх выданняў павялічыўся яшчэ на адну. І можна быць пэўным — сваіх чытачоў знойдзе і яно.

**У.П.**

**Пародыя**

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Няўлоўнасць мятлы

*Я пазнала літаўры мядзяныя,*
*Я адчула й сярэбраны горн...*
*........................................*
*А мне й мятла не страшна.*
**Марыя ПАНКОВА**

Засяваецца далеч іскрыстая
Трапяткой супярэчнасцю зор.
Песня казачных дзей прамяністая
Абвівае уладна прастор.

Не схаваеш пачуцці пад лаўкаю,
Сум пяклівы не бойся скрышыць.
Гэтак цягне няўлоўнай жураўкаю
Узляцець над нявер'ем душы.

Колькі год неадольна хацелася
Разарваць спапяляльны палон,
Бо ў нязбытна-затоеным меласе
Пасярэбраны чуецца звон.

Нос ступае загадкава-зоўная,
Звівы сноў у працяг несучы.
І калышацца сцень безназоўная
З празаічнай мятлой на плячы.

## Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі:** 5. Излучина. 6. Положительный. 8. Радужный. 11. Пятно. 14. Напрасно. 15. Стиральный. 16. Украшение. 17. Магазинный. 21. Тропа. 22. Перловая крупа. 23. Волна. 26. Пучеглазый. 27. Исчезнуть. 28. Приобретать.

**Па вертыкалі:** 1. Качели. 2. Рубец, полоса. 3. Багрец. 4.Щелевой. 7. Блеклый, жухлый. 9. Замерзнуть. 10. Латунный. 12. Сделать. 13. Понуренный, хмурый. 18. Сырье. 19. Употребление. 20. Насчитать. 24. Сорви-голова, озорник. 25. Ребра.

**Склала Л.ШНІП.**

## Пачутае «У Лявона»

* * *

Зэк у турэмным двары чытае ліст з дому і цяжка ўздыхае.

— Што там на волі здарылася? — пытаюць у яго суседзі па нарах.

— Ды сын-школьнік застаецца на другі год, лайдак гэтакі!

— Кепская справа, — спачуваюць сакамернікі. — Гэта ж трэба так зняславіць сям'ю!

* * *

— Дачушка, тата ўчора вярнуўся цвярозым?

— Не ведаю, ма, ён толькі папрасіў у мяне люстэрка, каб паглядзець, хто прыйшоў.

* * *

— Чаму гэта ты раптам прадаў свой раяль?

— Мне перадалі, што сусед наверсе купіў ружжо.

* * *

— Усё ж самае непаўторнае, што стварыла прырода, гэта адбіткі пальцаў у чалавека.

— Крылатыя выразы злятаюць з языка нярэдка разам з галавой.

— Усе дарогі, кажуць, вядуць у Рым... А куды тады наша?

### Толькі падтрымліваў

— У часе прэзідэнцкіх выбараў ты каго падтрымліваў: Пазьняка ці Лукашэнку?

— Вінаваты: суседа-пенсіянера.

— Пры чым тут сусед?

— У яго не было сіл самому дабрацца да выбарчага ўчастка, а ён абавязкова хацеў прагаласаваць за Лукашэнку, каб той вярнуў яму грошы, украдзеныя Ашчадбанкам.

**Барыс ЗАМЯЦІН.**

## Афарызмы

Калі дзяўчына прыходзіць да рабіна, то рабін — рабін, а дзяўчына — дзяўчына. Калі ж рабін прыходзіць да дзяўчыны, то рабін ужо не рабін, а дзяўчына ўжо не дзяўчына.

Маніць нельга, але некаторых праўдаў казаць не належыць.

Дзюравы мех ніколі не бывае цяжкім.

Уменне маўчаць — апора мудрасці.

Лянівы той, хто не нажывае сабе прыяцеляў. Яшчэ больш лянівы той, хто губляе іх, таму што не стараецца іх утрымаць.

Калі замак ляжыць у развалінах, ён усё адно застаецца замкам. Але куча гною, як бы яна ні расла да гары, застаецца кучай гною.

Смяротны саян (саван) не мае кішэняў.

Што за карысць з добрага віна ў бочцы, дзе поўна плесні?

Кожная напаўпраўда — гэта поўная мана.

Калі цябе пацалуе лайдак, палічы свае зубы.

У гусі аўса не купіш.

Паказаць і пазычыць грошы не прымусіш.

Лепей адно слова перад, чымся два апасля.

Словы трэба ўзважваць, а не лічыць.

Многа прафесій — мала прыбыткаў.

Пан Бог даў чалавеку два вухі і адны вусны, каб ён многа слухаў і мала гаварыў.

Калі чалавек мае пугу, то ён заўсёды знойдзе каня, каб сцебануць ёй.

Такт — гэта дапамога ведам.

Новыя клопаты знішчаюць старыя.

**Пераклаў з польскай мовы Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 11

**Па гарызанталі:** 3. Вятрак. 6. Парада. 8. Расліна. 9. Ілгун. 10. Лейда. 11. Асветніца. 14. Абраза. 16. Калюга. 18. Сякач. 20. Дапамога. 21. Пралеска. 23. Нерат. 24. Навіна. 26. Слімак. 29. Сланечнік. 31. Барва. 32. Напад. 33. Гутарка. 34. Аблуда. 35. Нагода.

**Па вертыкалі:** 1. Струг. 2. Балея. 3. Волава. 4. Крэсла. 5. Альтанка. 6. Панцак. 7. Аздоба. 12. Вартаўнік. 13. Пляменнік. 15. Баразна. 17. Гарката. 18. Саган. 19. Чарот. 22. Прыцемак. 24. Нарада. 25. Адліга. 26. Свіран. 27. Курада. 28. Цвіль. 30. Дакор.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 14

**Па гарызанталі:** 5. Рэчаіснасць. 6. Уздым. 7. Дрэнь. 8. Сродак. 9. Днець. 12. Ссівець. 13. Цяжка. 15. Яскрава. 16. Бегчы. 17. Сумёт. 18. Імгла. 19. Часопіс. 21. Камедыя. 24. Бярэмя. 25. Ануча. 26. Выскал. 27. Стома. 28. Лішак. 29. Лічба. 30. Нырка.

**Па вертыкалі:** 1. Вэдзгаць. 2. Ціхмяныя. 3. Сняданак. 4. Ацэненыя. 10. Аскепак. 11. Хваёвыя. 13. Цалік. 14. Адказ. 20. Самотнік. 21. Крыжацкі. 22. Андарак. 23. Шчыліна.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.





Індэкс 63865. Замова 1087

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5905 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 18.04.1995 г.
у 15 гадзін.